# Багіня Феміда, злітуйся,.. або Як судзілі мову ў Гародні

Чутка пра гэты суд імгненна разнеслася па старадаўнім горадзе: «Судзілі беларускую мову». Устрывожаныя гарадзенцы не паверылі чуткам, пыталіся адзін у аднаго: як гэта судзілі, калі? Больш дасведчаныя тлумачылі, што сапраўды быў суд, былі пікетчыкі, нават па мясцовым тэлеканале прайшла інфармацыя...

На маё пытанне аб праўдзівасці супярэчлівых чутак у абласной пракуратуры адказалі, што чуткі не адпавядаюць сапраўднасці і распаўсюджваюцца зацікаўленымі асобамі пры падтрымцы, вядома, журналістаў. Проста разглядалася скарга аднаго дэпутата гарсавета і групы бацькоў, якія не пажадалі, каб у першым класе школы № 11 навучанне ажыццяўлялася на беларускай мове.

Зараз вядома, што народны суд Ленінскага раёна г. Гродна 14 студзеня 1992 года адхіліў пратэст пракуратуры, пакінуўшы ў сіле папярэдняе рашэнне гарвыканкома № 30 ад 20.06.90 г., якое не супярэчыла арт. 22 Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь». Тым не менш, здавалася б, мясцовае, лакальнае пытанне за год з гакам перарасло ў больш маштабную праблему. Але — па парадку.

...Першапачатковым дакументам у судовай справе фігуруе дэпутацкі запыт на імя пракурора Гродзенскай вобласці. Нагадваю яго змест з захаваннем правапісу: «Обращаюсь к Вам по факту нарушения Закона о языках в Белорусской ССР в части ст. 5, ст. 22, ст. 24 в соответствии с решением Горисполкома № 30 20.06.1990. Приложение: 1) Депутатский запрос в Горисполком на 2 л. Народный депутат городского Совета по 64-му избирательному округу. В. Д. Руденко». Здзіўлены, піша ён у заяве, што кіраўніцтва гарана не лічыць неабходным пры амаль 100-працэнтным патрабаванні бацькоў навучанне на рускай мове. Канфлікт, «дыскрымінацыя на падставе мовы» шкодзяць «узаемаразуменню і дружбе» і могуць прывесці да «некантралюемага выніку і выбуху гневу». Складзены спісы, сабраны подпісы бацькоў (усяго 165, падпісаліся не ўсе).

На абарону «пакрыўджаных» стаў пракурор і заявіў пратэст гарвыканкому 16.10.91—7/214-91. Як сведчыць дакумент, «праверана і ўстаноўлена, што парушаны правы, што довады, прыведзеныя бацькамі, правамерны і абгрунтаваны, што ўсё гэта можа прывесці да ўзнікнення сацыяльнага канфлікту». Пракурор «убачыў» парушэнні законнасці і засведчыў наступнае: «На падставе выкладзенага, кіруючыся арт. 163 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, арт. 23, 25 Закона СССР «Аб Пракуратуры СССР»— патрабую: выправіць адзначаныя парушэнні ў Законе «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь».

Пратэст «абаснаваны і падлягае задавальненню» — так ухваліў пракурор вобласці дзяржаўны Саветнік юстыцыі III класа А. Цярэшчанка, паставіўшы ўласнаручны подпіс. На адрас заявіцеля накіравана адпаведная папера аб выніках праверкі. Такім чынам, фармальна пракуратура расставіла кропкі над «і». Але прычына канфлікту засталася.

Закон «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» у Гародні выконваўся і выконваецца дрэнна. Былыя і цяперашнія кіруючыя структуры яго свядома ігнаруюць. Што датычыць выканкома, дык ён прыняў адпаведныя захады. У дадзеным выпадку бараніў сваю пазіцыю і рашэннем ад 28 кастрычніка 1991 г. № 271 пакінуў пратэст пракурора без задавальнення. Народны суд Ленінскага раёна ўстанавіў, што парушэнняў з боку выканкома няма, бо яго дзеянні не супярэчаць арт. 22 Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь».

Як вынік — два супрацьлеглыя рашэнні. А грамадскасць па-свойму гадае. Хто ж у Гародні парушыў спрадвечны прынцып багіні правасуддзя Феміды, гэты сімвал «беспристрастности»? Ці не завітаў сюды дух «найяснейшай кароны» з камедыі «Пінская шляхта»?

Прыгадаем некаторыя факты. У заяве дэпутата В. Рудэнкі сказана, што мікраёран школы № 11 г. Гародні з'яўляецца месцам кампактнага пражывання грамадзян рускай нацыянальнасці (па яго тэрміналогіі чамусьці «русскоговорящие жители»). У I—II класах школы сёлета навучаецца 1134 вучні, з іх беларусы складаюць 54,3 працэнта, рускія — 25,5, палякі — 14,9, асобы іншых нацыянальнасцей — 5,3. У спісах I-х класаў налічваецца 155 навучэнцаў, з іх у працэнтах: беларусы — 60,7, рускія — 18,05, палякі — 18,05, іншыя нацыянальнасці — 3,2 працэнта. Такім чынам, спасылка на «кампактнасць» не адпавядае рэчаіснасці.

Што датычыць калектыўнай заявы бацькоў рускай нацыянальнасці, то яна таксама скажона. Сярод подпісаў грамадзяне рускай нацыянальнасці складаюць меншасць (каля 30), пераважная большасць з'яўляецца беларусамі і палякамі. Аб гэтым гаворыць нацыянальны склад усяго кантынгенту школы № 11: беларусы — 616, рускія — 289, палякі — 169, іншыя нацыянальнасці — 60, адпаведна ў I-х класах беларусаў — 94, рускіх — 28, палякаў — 28, іншых нацыянальнасцей — 5.

Зразумела, што канфлікту бацькоў, скіраванага супраць такой далікатнай справы, як навучанне дзяцей на мове карэннага народа, магло не быць. Ён яўна інспіраваны дэпутатам В. Рудэнкам. Частка бацькоў трапіла пад уплыў ініцыятара бруднай гульні на нацыянальнай глебе. Спрадвечная ісціна — з народам трэба па-народнаму, а тут — насуперак...

Звернемся да лічбы 165. Яна праходзіць у заяве дэпутата, на яе спасылаецца пракуратура. Гэта — колькасць бацькоў. Як вынікае з аналізу, асобныя прозвішчы ўнесены ў склад заявіцеляў, але ўласных подпісаў няма (Курэц Н. В., Прыгарадная, 14; Адынец Н. А., 2-гі завулак Белуша, 12-а, кв. 11; Паўловіч М. А., Белуша, 19, кв. 63; Саўко Ч. Д., Белуша, 22, кв. 79; Цабрук І. Г., Белуша, 19, кв. 73 — усяго 19). Далей. Названа 13 прозвішчаў бацькоў, але іх дзяцей у I-м класе не значыцца (Радзько С. В., Белуша, 22; Кандратовіч С. І., Белуша, 22, кв. 38; Ланцэвіч Т. І., Белуша, 36, кв. 30; Дзяміда Г. І., Захарава, 21, кв. 1 і інш.). Ёсць і такія, што запісаны двойчы (Утлік Л. Л., 2-гі завулак Белуша, 2, кв. 50; Авечка Л. Б., Парахавая, 12, кв. 3; Сіўко В. У., Белуша, 22; Целікава Т. В., Антонава, 88 — усяго 27). Вывад відавочны: акцыя «незадавальнення» ўзнікла не сама па сабе, а загадзя спланавана з мэтай пашкодзіць рэалізацыі Закона «Аб мовах».

У заяве В. Рудэнкі выклікае сумненне і набор фармулёвак тыпу: «дыскрымінацыя на падставе мовы, усялякія прывілеі або абмежаванне правоў асобы па моўных прадметах лічу недапушчальным». Пустая дэкларацыя, цалкам адарваная ад канкрэтных з'яў жыцця нашага народа, яго гісторыі.

Гарадзенскія «абаронцы» рускасці, на жаль, не разумеюць, што сёння ратаваць у Беларусі трэба не рускую мову і школу, а беларускую. Вучыць, напрыклад, дзіця ў Гародні на рускай мове вельмі проста, бо ўсе школы рускія, а вось арганізаваць навучанне па-беларуску — праблема. У абласным цэнтры няма ніводнай школы, дзе навучальны працэс вёўся б на мове карэннага этнасу. У 50-х гадах у горадзе працавалі дзве беларускія школы — 4-я і 9-я. Партыйныя і савецкія ўлады іх зачынілі, не параіўшыся з народам у правамернасці абранага кроку. Не выказаў сваіх адносін і пракурорскі нагляд.

Беларусь, у тым ліку Гароддня, шчодра дзеліцца з прыезджымі людзьмі ўсім, чым можа. Той, хто прыехаў сюды працаваць ці жыць, не абдзелены нічым. Гэта катэгорыя насельніцтва, як правіла, жыве ў месцах сучаснай інфраструктуры, у новых дамах і кватэрах, большасць займае кіруючыя пасады. Пэўна, ні адзін з іх не жыве ў хібарах 30—40 гадоў, уросшых па вокны ў зямлю, як жывуць карэнныя гарадзенцы, асабліва на старых ускраінах.

На жаль, не кожны, хто адарваўся ад першаснай глебы, каго лёс прыпісаў да Гарадзеншчыны, разумее гэтую сітуацыю. Сёй-той вітае ў палоне былых імперскіх амбіцый, паводзіць сябе эгаістычна, паспажывецку, а то і агрэсіўна. Хачу нагадаць адзін прыклад. Працуючы дырэктарам сярэдняй школы, я меў прыкрасць разглядаць заявы бацькоў з просьбай вызваліць іх дзяцей ад вывучэння беларускай мовы. Пісалі іх не людзі працы, а пераважна наменклатуршчыкі або блізкія да іх. У якасці довадаў прыводзіліся: беларуская мова прыносіць толькі «вред», у лепшым выпадку—не жадаю «ломать русский язык», «проживаю временно», «не нравится». Тады, у 60-х, наступ на мову ішоў пад сцягам «вызвалення». Сцэнарый складаўся са збору, падліку і двухразовай перадачы колькасці заяў у цэнтр. Пік цягнуўся некалькі дзён, дзяжурныя сядзелі ля тэлефонаў, чакалі — быць ці не быць роднаму слову ў школе. Нарэшце, званок з Масквы сакратара ЦК Катушава — «спыніць...»

Інспіраваная народным дэпутатам гарадскога Савета па 64-й выбарчай акрузе скарга і пратэст абласной пракуратуры — факты беспрэцэдэнтныя. Да гонару, суд Ленінскага раёна адхіліў прэтэнзіі і пратэст, адназначна стаўшы на абарону Закона «Аб мовах». Што заўтра прарасце на моўнай глебе Гарадзеншчыны, так непрафесійна пакрамсанай праваахоўнікамі, скажа будучыня. У адным перакананы: В. Рудэнка страціў давер як народны абраннік. Сёння ён не мае маральнага права ўтрымліваць статус народнага дэпутата і павінен заявіць аб зняцці з сябе дэпутацкіх паўнамоцтваў.

«Судзілішча» над мовай, так яго разумеюць у Гародні, спынена. На які тэрмін?

**Сяргей ДРОЗД,**
**старшыня суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны вучылішча алімпійскага рэзерву.**

г. Гродна.



# Гэта было, было...

развітацца са сваім вялікім правадыром. Усе ахоплены невымоўнай журбой, а ў гэты час ворагі падымаюць галаву, і пачынаюцца іх зміяныя шушуканні пра тыя затрудненні, якія можа прынесці пролетарскай рэвалюцыі смерць Леніна. Гэтыя шушуканні перадаюцца тэмай славутага ў свой час манархічнага «Преображенского марша». Сіпенне белых зграй разрастаецца, але з'яўляецца кароткі і магутны матыў барацьбы, змятае гэтае сіпенне.

(З артыкула «Ленін у беларускай музыцы» — пра «Мацней за смерць» М. Аладава).

20 студзеня 1934 г.
Без подпісу.

«Перанясёмся ў самае недалёкае будучае. Перасунем каляндар на некалькі гадоў наперад. 1938—39 гг.

Менск. На рагу асфальтаваных вуліц Савецкай і Энгельса вы садзіцеся ў трамвай 2-гі альбо 4-ы нумар. Званок, і трамвай ідзе па вуліцы Энгельса ўніз, пасля зварочвае на пляц Волі, Бакунінскую, хутка перасякае мост на р. Свіслач. Кароткая астаноўка, пад'ём па Камунальнай і нарэшце праваднік абвяшчае:

— Астаноўка. Вялікі дзяржаўны тэатр.

...Абвешчаны ўрадам БССР усесаюзны конкурс на лепшы праект будынка вялікага тэатра закончыўся, паступіла 28 праектаў, а з іх, пасля стараннага прагляду, быў прыняты і зацверджаны праект, дэвізам якога было слова «Трыбуна».

Аўтар гэтага праекта аказаўся шырока вядомы працаўнік БССР, заслужаны дзеяч мастацтваў тав. Лангбард. Па яго праекту ў Менску ўжо ёсць адзін цудоўны будынак — Дом Урада... На шырокай плошчы Парыжскай Камуны, адной са старэйшых плошчаў Менска, якая скарыстоўвалася пад рынак, — пабудавалі неабходныя падсобныя будынкі, майстэрні: стальмашню, кузню; доўгім радам вараслі інтэрнаты. Каля плошчы будуецца пяціпавярховы дом, у якім першы час будуць жыць рабочыя, занятыя на будаўніцтве, а пасля ён пяройдзе ў распараджэнне тэатра. Звозяцца будаўнічыя матэрыялы — цэгла, бэлькі, дошкі...»

1934 г.
**Я. Садоўскі.**

«Выкрыццё трацкісцкай кантрабанды, прасунутай у літаратуру, дзякуючы двурушніцтву Дунца і прытупленню класавай пільнасці работнікаў літфронту, не пахісне літаратуры. Літаратура, адкінуўшы гэты атрутны хлам, пойдзе далей да новых перамог».

12 лютага 1935 г.
**М. Клімковіч,**
**І. Гурскі.**

«Агульны сход пісьменнікаў г. Менску, заслухаўшы на мітынгу інфармацыю пра ўзнагароду БССР і яе кіраўнікоў — сакратара ЦК тав. Гікала і старшыню СНК тав. Галадзеда, прыняў пастанову, у якой гаворыцца: «Мы заяўляем ЦК КПБ на чале з тав. Гікала і СНК БССР на чале з тав. Галадзедам, што пісьменнікі актыўна ўключацца ў падрыхтоўку і правядзенне большавіцкай веснавой пасяўной кампаніі, натхняючы сваім мастацкім словам ударнікаў соцыялістычных палёў на новыя перамогі ў барацьбе за заможнае калгаснае жыццё і створым вобразы ўдарнікаў — герояў сацыялістычнай індустрыі ў сваіх творах...»

22 сакавіка 1935 г.
Без подпісу.

«Наступнае маё патрабаванне да вас такое: вы, таварышы работнікі беларускай кінематаграфіі, абавязаны ў бліжэйшы час стварыць беларускага Чапаева (апладысменты)».

(З прамовы старшыні Саўнаркома БССР тав. Галадзеда на пасяджэнні СНК БССР, прысвечаным 10-гадоваму юбілею Беларускай кінематаграфіі).

11 мая 1935 г.

«...Заслухаўшы паведамленне пра выкрыты органамі пролетарскай дыктатуры трацкісцка-зіноўеўскі «паралельны цэнтр», агульны сход пісьменнікаў БССР спадзяецца, што пралетарскі суд поўнай мерай адплоціць гэтым подлым трацкісцкім катам за ўсю іх

Тыдзень рускай літаратуры ў Беларусі. Сустрэча гасцей з Масквы ў Мінскім аэрапорце.

ЧАС І МЫ

# Характар беларусаў і рынак

У апошнія часы ў нашым друку пачалі з'яўляцца матэрыялы, аўтары якіх спрабуюць зразумець, раскрыць асаблівасці нацыянальнага характару беларусаў. Робяцца спробы паказаць як станоўчыя, так і адмоўныя бакі псіхічнага складу беларускага народа. Аднак падобныя разважанні, як правіла, не грунтуюцца на спецыяльных даследаваннях, трывалым аргументаваным аналізе гэтай вельмі складанай і нераспрацаванай праблемы. На наш погляд, каб рабіць правільныя высновы аб асноўных рысах характару беларусаў, неабходна як мага хутчэй пераходзіць ад сваіх суб'ектыўных уражанняў да ўсебаковага, шматграннага даследавання ўсяго комплексу праблем, якія маюць непасрэднае дачыненне да раскрыцця псіхалогіі беларускага народа. Прычым у гэтай справе, безумоўна, нельга абысціся без аб'яднання намаганняў спецыялістаў у розных навуках, — гісторыкаў, этнографаў, псіхолагаў, лінгвістаў, мастацтвазнаўцаў, філосафаў і г. д. Толькі такі падыход можа стварыць найбольш поўную і аб'ектыўную карціну ўсёй спецыфікі нацыянальнага характару беларусаў.

Падобныя даследаванні маюць, як нам думаецца, асабліва важнае значэнне ў нашы дні. На Захадзе этнапсіхолагі і іншыя аналітыкі ўжо даволі даўно пачалі аналізаваць асаблівасці характару сваіх народаў. Вынікі іх работы выклікалі пэўную цікавасць сярод шырокіх колаў грамадства і, што характэрна, у прадстаўнікоў улады тых краін. Яны кіраваліся канкрэтнымі рэкамендацыямі вучоных у сваёй практычнай дзейнасці. Тады многія пачалі разумець (даследчыкі, палітыкі і г. д.), што без уліку станоўчых і негатыўных бакоў псіхалогіі народа практычна немагчыма паспяховае развіццё ўсяго грамадства. Больш таго, некаторыя аналітыкі падкрэслівалі, што ад таго, у якой ступені будуць прыняты пад увагу спецыфічныя рысы псіхалогіі карэннай нацыянальнасці і прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў, у далейшым будзе залежаць нават жыццяздольнасць той ці іншай дзяржавы.

Вось і будучыня суверэннай Беларусі, яе сапраўднае нацыянальна-культурнае адраджэнне ў многім будзе абумоўлена нашым уменнем выкарыстаць у тых мэтах найлепшыя рысы характару беларусаў, і ў той жа час паступовым пераадоленнем адмоўных бакоў псіхалогіі ўсіх насяляючых рэспубліку нацыянальнасцей. Розныя псіхічныя, маральныя і нават фізічныя якасці беларусаў павінны ў пэўнай меры пакласці свой адбітак на распрацоўку і практычнае ўвасабленне праграм эканамічнага і палітычнага развіцця рэспублікі. Без падобнага падыходу мы абавязкова сутыкнёмся з раней непрадбачанымі цяжкасцямі і перашкодамі ў будучыні. Увогуле, ніколі раней нашы палітычныя дзеячы не прымалі пад увагу гэты фактар, не задумваліся над тым, што рэспубліку, краіну ў цэлым насяляюць не нейкія уніфікаваныя, аднолькавыя «таварышы», а розныя па сваіх культурах, мовах, бытавых і псіхічных асаблівасцях народы, якія нярэдка вельмі адрозніваюцца адзін ад аднаго. Якія былі рэальныя вынікі такога стаўлення да нацыянальных праблем, яскрава сведчаць падзеі нядаўняга мінулага. І ў гэтым сэнсе Беларусь можа з'яўляцца, безумоўна, найлепшым прыкладам заганнай палітыкі «зліцця нацый і народнасцей». Ці ж не было нацыянальнай трагедыяй, сведчаннем сапраўднага выраджэння нацыі тое, што да сярэдзіны 80-х гг. у нашай рэспубліцы не засталося амаль ніводнай беларускай школы, а сфера ўжытку такой мілагучнай і прыгожай мовы (дарэчы, па дадзеным крытэрыі беларуская мова, як сцвярджаюць некаторыя спецыялісты, займае другое месца ў свеце пасля італьянскай) не выходзіла практычна за межы творчасці беларускіх пісьменнікаў.

Цяпер дзеля таго, каб па-сапраўднаму шырока і глыбока разгарнуць працэсы нацыянальнага адраджэння, пераадолець нашу агульную цяжкую «хваробу» — нацыянальны нігілізм, крайне неабходна як мага хутчэй падняць нацыянальную свядомасць беларусаў, далучыць многіх жыхароў рэспублікі да найбольш каштоўных культурных здабыткаў розных народаў, і ў першую чаргу — беларускага. Іншага шляху, наперад, які б не прыводзіў да паўтарэння сумных вынікаў мінулых гадоў, у нас зараз проста няма. Прычым гэта трэба зразумець і значнай частцы небеларускага насельніцтва рэспублікі, таму што ў нашы дні востра стаіць пытанне аб выжыванні і выратаванні ўсёй беларускай нацыі.

На наш погляд, толькі шлях спачатку духоўнага, маральна-псіхалагічнага адраджэння беларусаў можа прывесці і да паляпшэння эканамічнага становішча суверэннай Беларусі. Пры гэтым прадстаўнікі парламента, урада рэспублікі безумоўна павінны кіравацца ў сваёй практычнай дзейнасці пры вырашэнні любых праблем, так бы мовіць, **«этнапсіхалагічнымі»** ці **«нацыяпсіхічнымі»** ўстаноўкамі і распрацоўкамі. У процілеглым выпадку перспектывы нашага далейшага развіцця ва ўмовах дзікага рынку і «абвальнай» прыватызацыі будуць, магчыма, вельмі сумныя і жаласныя. І тады мы будзем вымушаны зноў, як і раней, жыць і працаваць без разумення сваіх уласных гістарычных каранёў, без ведання сваіх нацыянальных традыцый, абрадаў, культурных і духоўных каштоўнасцей. Тады ўзнікне небяспека пераўтварыцца ў нацыянальных нігілістаў, у так званых манкуртаў, не ведаючых сваёй роднасці.

Каб зусім не быць галаслоўным, хацелася б прывесці толькі адзін прыклад таго, што вельмі важна ведаць і глыбока разумець характар беларусаў, каб пазбегнуць неспрыяльных вынікаў. Як вядома, зараз мы стаім «на парозе» рынку, прычым тэмпы ўваходу і развіцця ў ім прадугледжваюцца даволі высокія. Але прымяняльна да беларускага народа такі хуткі ўваход у рынак наўрад ці прынясе адразу станоўчыя здабыткі. Тут варта ўсім палітыкам памятаць некаторыя асаблівасці нацыянальнага характару беларусаў. Дык вось, многія даследчыкі мінулых часоў, якія вывучалі культуру, быт беларусаў (А. Семянтоўскі, П. Яфіменка, М. Доўнар-Запольскі, А. Смоліч ды іншыя) неаднаразова адзначалі такія рысы беларускага нацыянальнага характару, як пэўнае нерашучасць, паважнасць, кансерватыўнасць, рахманасць. Шырока распаўсюджанай, асабліва ў дакастрычніцкі час, была думка аб тым, што беларусы не маюць схільнасці да прадпрымальніцтва, а таксама «каланізатарскага і прамысловага духу вялікаросаў і свабоднага духу маларасійскага племені» (П. Яфіменка). Аркадзь Смоліч лічыў, што беларус «не мае ў характары тае рызыкі, адкрытае і грубае прастаты, характэрнае для масхоўца». Акрамя гэтага, ён «не мае лёгкадумнасці, свецкасці і самахвальства, якім так часта вызначаюцца палякі». Ад яўрэяў беларусы адрозніваліся меншай энергічнасцю, настойлівасцю, менш развітым уменнем прыстасоўвацца да розных абставін і г. д. У значнай меры падобныя меркаванні, хоць яны глыбока і навукова не абгрунтаваны, здаюцца адносна правільнымі і аб'ектыўнымі. Зыходзячы з гэтых поглядаў, якія, між іншым, часцей за ўсё пацвярджаюцца гістарычнымі фактамі, можна зрабіць выснову аб тым, што на Беларусі найлепшыя рэальныя вынікі можа прынесці не хуткае ўвядзенне рынычных адносін і шырокая прыватызацыя, а, наадварот, больш павольнае, спакойнае развіццё працэсаў рэфарміравання народнай гаспадаркі. Беларусы, з іх пэўнай пасіўнасцю, інэртнасцю і «апатычнасцю», не могуць, думаецца, так шпарка зразумець і прыняць абсалютна новыя рэаліі свайго паўсядзённага жыцця. Яшчэ тут трэба ўлічваць і тое, што стагоддзямі беларусы падвяргаліся знешняму націску ў розных формах, практычна заўсёды жылі ў неспрыяльных, несвабодных варунках, адсюль і вядомая доўгацярплівасць беларусаў, у некаторай ступені несамастойнасць, залежнасць і кансерватызм. Беларусы жылі і працавалі практычна на адной тэрыторыі, без значных міграцый і перасяленняў. Такой спецыфіцы жыцця садзейнічала і прырода Беларусі з мноствам балот, рэк, азёр, што прымацоўвала беларусаў да свайго кавалачка зямлі і прыводзіла ў выніку да іх своеасаблівага ізаляцыянізму.

Усе вышэйпералічаныя спецыфічныя рысы, зразумела, нават і блізка не раскрываюць усёй складанасці і супярэчлівасці характару беларусаў. Ды намі і не ставілася задача стварэння поўнай карціны светаўспрымання, самасвядомасці беларускага народа. Адзінаю мэтаю гэтых разважанняў было жаданне паказаць, што ўсім нам неабходна больш сур'ёзна і адказна падыходзіць да аналізу шматлікіх праблем рэчаіснасці. На наш погляд, ні ў якім разе нельга аднолькава падыходзіць да пабудовы рыначнай эканомікі ў розных незалежных дзяржавах былога СССР. Толькі падыход, які ўлічвае ўсе асаблівасці нацыянальнага характару, псіхалогіі асобных народаў, можа забяспечыць поспех у будучым. Для нашай жа рэспублікі **«нацыянальна-псіхалагічны»** накірунак у выкананні кожнай практычнай задачы з'яўляецца асабліва неабходным і практычна безальтэрнатыўным. Хацелася б, каб у першую чаргу гэта зразумелі кіраўнікі ўрада і парламента нашай рэспублікі.

**Эдуард ДУБЯНЕЦКІ,**
**навуковы супрацоўнік гістфака БДУ,**
**член Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.**



дзейнасць. Просім пралетарскі суд расстраляць усю зграю шалёных сабак. Няхай жыве на радасць і гордасць сусветнага пролетарыята наш геній Сталін».

28 студзеня 1937 г.

«Тэлеграма пісьменнікаў Савецкай Беларусі народнаму камісару ўнутраных спраў СССР таварышу Яжову.

Дарагі Нікалай Івановіч. Мы, пісьменнікі ордэнаноснай БССР з найвялікшай увагай сочым за працэсам антысавецкага трацкісцкага цэнтра — адзічэлай бандыцкай зграі. Патрабуем ад пралетарскага суда вынесці раз'юшанай бандзе адзіны прысуд — расстрэл. Мы шлём сваё гарачае прывітанне Вам, Нікалай Івановіч, і ўсім нашым слаўным чэкістам».

1-га лютага 1937 г.

«Ні адзін з нашых крытыкаў, якія ў свой час шмат балбаталі аб рэвалюцыйнай пільнасці, не выкрыў ні аднаго з ворагаў. Наадварот, былі выпадкі, калі, скажам, у рэдакцыі «ЛіМа» не быў прыняты да друку хвалебны артыкул тав. Кучара пра кніжку Хадыкі, гэтага заклятага ворага, а тав. Кучар ухітрыўся ўсё ж уцісьнуць яго ў «Полымя рэвалюцыі».

ЯНЫ РЭДАГАВАЛІ «ЛіМ»

## Нічыпар ПАШКЕВІЧ:

# «Адліга папалам з замаразкамі»

Прыйшоў я ў «ЛіМ» на самым пачатку шасцідзесятых. Перад гэтым, пасля сканчэння Акадэміі грамадскіх навук у Маскве, выпала нейкі час папрацаваць у наваствораной «Экономической газеце» ЦК КПСС. Рэдактар аддзела культуры і быту ў газеце такога профілю—гэта, скажу вам, сапраўдная сінекура. Аднак цягнула дадому, я адчуваў, што не пушчу карэнне ў маскоўскую глебу.

І вось я ў «ЛіМе». Суцяшаў сябе — не надоўга ж, галоўнае вярнуцца, а там будзе відаць. Выйшла ж так, што давялося несці гэты крыж амаль дзевяць гадоў. Пакуль зноў не апынуўся ў той жа «эміграцыі» (запрасілі на работу ў газету «Правда»).

Пра тыя далёкія ўжо гады, вядома ж, ёсць што ўспомніць і сказаць, бо яны не былі звычайнымі, «праходнымі» ні ў маёй біяграфіі, ні, як мне думаецца, у гісторыі «ЛіМа».

Працавалася — мала сказаць нялёгка. Гэта быў бясконцы ланцуг стрэсавых сітуацый. Сам час быў надзвычай складаны, супярэчлівы; хрушчоўскія адліжныя ветры паступова гублялі сваю дабратворную сілу, а потым іх увогуле змянілі брэжнеўска-суслаўскія сухавеі. А колькі было ўсялякіх прамежкавых завіхрэнняў у ідэалагічнай і культурнай палітыцы! Паспрабуй у такіх умовах зарыентуйся, вытрымай нейкі азімут у рабоце газеты!

Прыкідваю цяпер і думаю, што на цяжкія размовы ў кіруючых кабінетах, на розныя «дыпламатычныя» хады-захады па ўрэгуляванні канфліктаў было далібог жа затрачана не менш душэўных сіл і нервовых клетак, чымся на непасрэдную рэдактарскую справу. І гэта пры ўсім тым, што — буду справядлівым — у галоўным партыйным доме ставіліся да мяне нейкі час з пэўным даверам і прыхільнасцю — свая ж «кадра»! Дазволілі нават не насіць ім на прагляд адбіткі палос са справаздачамі са з'ездаў, пленумаў і сходаў творчых саюзаў (там, як правіла, была самая высокая канцэнтрацыя «небяспечнага выбуховага рэчыва»). Дапамагалі і матэрыяльна. Калі я прыйшоў у «ЛіМ», мяне вельмі ўразіла, што рэдакцыя не мае карэктарскай. Дзяжурныя па нумары вычытвалі газетныя палосы, прытуліўшыся дзе-небудзь на калідоры альбо за кулісамі актавай залы Дома друку. Я звярнуўся ў ЦК, сакратар па ідэалогіі В. Ф. Шаура неадкладна выехаў на месца, правёў «рэкагнасцыроўку», і нам аддалі адзін з пакояў (там карэктарская «ЛіМа» і цяпер).

Бараніцца ў крутых сітуацыях даводзілася рознымі метадамі і сродкамі, аж да прыёмаў з крымінальным адценнем. Успамінаецца, напрыклад, такая «акцыя».

Пасля чэрвеньскага пленума ЦК КПСС 1963 г., які пачаў «наводзіць парадак» на ідэалагічным фронце, у пачатку ліпеня быў скліканы пленум нашага ЦК з аналагічнай задачай. Напярэдадні адкрыцця пленума нечакана раздаўся тэлефонны званок з гасцініцы «Мінск». Тэлефанавалі сябры-прыяцелі, якія прыехалі на пленум з перыферыі: прыходзь, у нас тут прыемная бяседа! Калі я з'явіўся, застолле было ўжо ў разгары. І вось адзін з кампаніі — сакратар абкома партыі па прапагандзе — раптам дастае з папкі незнаёмую мне тады газету нашай эміграцыі ў Канадзе «Беларускі голас». А там — ажно закусь засела ў горле! — старонка перадрукаў з «ЛіМа», некалькі палітычна самых вострых матэрыялаў: артыкул Валянціна Тараса «Вечны агонь праўды», вершы П. Макаля, Р. Барадуліна, таго ж В. Тараса... «Вось, — з'едліва сказаў прыяцель, — на чый млын ліе ваду твой «ЛіМ». Заўтра буду выступаць на пленуме, суш, брат, сухары». Можаце ўявіць маё самаадчуванне. Але, думаю, пакуль тыя сухары... Вялікай кемлівасці не спатрэбілася, каб выкарыстаць зручны момант, і неўзабаве я крочыў дадому з «Беларускім голасам» у кішэні. Выступленне, вядома, не адбылося. «Згубіў, разумееш, недзе важны дакумент, без якога нечага лезці на трыбуну», — змрочна сказаў прыяцель...

Прыемней, вядома, успамінаць пра лепшае. Пра тое, як мы, нягледзячы ні на што, з усіх сіл стараліся захаваць і памножыць добрыя традыцыі «ЛіМа», зрабіць газету выразніцай новага часу, новых павеваў у мастацкім, культурным, грамадскім жыцці. Хацелася, каб яна не была «паштовай скрынкай», не плялася за падзеямі, а мела свой голас, свой непалахлівы нораў. Спадзяюся, такой яна і запомнілася — і чытачам, і тагачасным супрацоўнікам. Мае калегі ўмелі ўсё — і падаць ідэю, і залучыць сур'ёзнага аўтара, і ўзяць на сябе адказную тэму... Атмасфера творчага пошуку, самапатрабавальнасці, шчырых, часам бязлітасных сустрэч адбілася ў памяці як найперша прыкмета жыцця рэдакцыі тых гадоў.

моцна выяўленым, ні адкрытым. І не ішло яно па крытэрыю ўзросту. Важныя былі грамадзянскія пазіцыі, агульная мастакоўская рэпутацыя. А згодна яе стары Крапіва лічыўся, і ў многім справядліва, блізкім да Макаёнка. Затое, скажам, Мележ, Кулакоўскі і Брыль у сваіх лепшых творах пра вайну фактычна адмаўлялі зусім слабую ваенную прозу старэйшых Гурскага, Стаховіча і Пестрака.

Той жа Брыль у аповесці «На Быстранцы» і Кулакоўскі ў «Нявестцы» яўна разыходзіліся з вясковымі творамі А. Стаховіча, М. Паслядовіча і Т. Хадкевіча, які, у адрозненне ад свайго аднагодка Максіма Танка, быў куды бліжэй па інтэрпрэтацыі жыцця да старэйшага на сем гадоў П. Броўкі: той паспяваў адклікнуцца гучнай рыторыкай на любы зігзаг часу.

**Л. К.** Пісаў жа Вядзьмак Лысагорскі: «Калі звалілі з трона Броўку...» Дык хто яго звальваў? Хіба не маладыя, не філалагічнае пакаленне?

**Д. Б.** Супраць Броўкі тады аб'ядноўваліся таксама не па ўзроставым прынцыпе. Яго звальвалі тыя са старых і маладых, каму вельмі ўжо надакучыла мёртвая казёншчына ягоных штатных прамоў і дакладаў. Ды і сядзеў ён на троне, як нам здавалася, залішне доўга. Амаль 20 гадоў. Але звяржэнне Броўкі не апраўдала нашых надзей. Да кіраўніцтва Саюзам пісьменнікаў прыйшлі новыя, вельмі паважаныя людзі — Максім Танк, Іван Мележ, Пімен Панчанка, Янка Брыль. Яны, вядома, выступалі намнога больш цікава і ярка, але ў практычнай дзейнасці СП мала што перамянілася. Партыйныя чыноўнікі высокага рангу з думкай новых кіраўнікоў не вельмі лічыліся.

**Л. К.** Такое сапраўды было?

**Д. Б.** Было... было... Вось толькі адзін паказальны прыклад. У 1970 годзе звышпільныя кіраўнікі выдавецтва «Беларусь» знайшлі крамолу ва ўжо набранай кнізе С. Андраюка пра беларускую прозу другой палове 50—60-х гадоў. На яго абарону стаў Саюз пісьменнікаў. Было спецыяльнае абмеркаванне, напісалі адпаведны пратакол (на 10 машынапісных старонак!). Я яго сам пісаў, дык добра помню, а Мележ яшчэ пасля мяне рэдагаваў. Паслалі выдаўцам і ў «высокі дом» — той самы, што ўсім кіраваў. А вынік? Матузаў, які тады ўзначальваў выдавецтва, загадаў раскідаць набор. Праўда, праз тры гады Андраюкова кніжка ўсё ж выйшла. Толькі ўжо ў другім выдавецтве і пад іншай назвай.

Броўка ж усіх нас прысароміў. Пайшоўшы са старшынёўскай пасады ў СП, ён арганізаваў выданне БелСЭ, для чаго вельмі аператыўна стварыў спецыяльнае выдавецтва. Арганізатар ён быў выдатны.

**Л. К.** А як паводзілі сябе іншыя?

**Д. Б.** У гады хрушчоўскай адлігі ўспомніў старыя часы П. Глебка, які ў перыяд пагрому «Узвышша» адшукаў у душы пасаджанага У. Дубоўкі «схованага Кайзера, Пілсудскага, Балаховіча і інш.». Цяпер ён распінаў В. Каваленку і А. Мальдзіса, з якога толькі пер'е ляцела (у яго быў прызнаны «крамольным» артыкул «Каб з пер'я выраслі галубы» ці нешта падобнае па назве). Грамілі таксама А. Яскевіча і А. Наўроцкага.

Часта перападала і Р. Бярозкіну, які хадзіў у маладых у перадваенныя гады. Шмат шуму нарабіў яго хлёсткі, але слушны артыкул пра ўжо тады адыёзную кнігу маскоўскай даследчыцы Л. Залескай «Паэзія Савецкай Беларусі» (1960). У гэтым артыкуле крытык з поўнай падставай заявіў, што так пісаць пра паэзію нельга ніколі і нікому. Словам, гэта быў перыяд, калі літаратура ў многім абнаўлялася. Шмат зрабіў тады ў плане перагляду ранейшых ацэнак А. Адамовіч, самы баявіты тагачасны крытык.

**Л. К.** А. Адамовіча было цікава чытаць і майму пакаленню. Але ж і на яго нападалі...

**Д. Б.** Ну і што з таго? Нападалі несправядліва. Ужо ў гарбачоўскія часы, калі гаварыць дазволілі ўсё, што хочаш, Адамовіча папракалі і ў сувязі з выданнем збору твораў Максіма Гарэцкага. Маўляў, у прадмове да гэтага выдання, напісанай А. Адамовічам, нічога не сказана пра сталінскі культ і пра тое, што пісьменнік быў рэпрэсіраваны.

Цяпер увогуле лёгка крычаць, бо ўсё, паўтару, дазволена. І нічым не трэба рызыкаваць. А тады нам усім многае давалася з вялікімі пакутамі, кожная пераацэнка бралася з бою.

Ды што гаварыць пра мінулае... І цяпер існуе пэўная інерцыя старых поглядаў. Табе, думаю, не трэба даводзіць, як я стаўлюся да Мележа. Але ж ясна цяпер, што і ў яго выдатнай «Палескай хроніцы» сёе-тое патрабуе пераацэнкі. Дык хто, ты думаеш, пратэстуе? Г. Шупенька, чалавек таленавіты, ды залішне гарачлівы. Ён, бачыце, спалохаўся за Мележа!

**Л. К.** Гэта, мусіць, ад вялікай любві да пісьменніка?

**Д. Б.** Вядома, ад любві. Але і яна не павінна быць сляпой.

**Л. К.** Ну, кіпяціцца не варта. Скажы лепш вось пра што. Сённяшні бунт моладзі супраць старэйшых: колькі ў ім нязгоды светапогляднай? Ці гэта больш стомленасць ад традыцыі, ад эстэтычнай манатоннасці? А можа, жорсткі прэсінг літаральна па ўсім полі выкліканы перш за ўсё меркантыльным жаданнем самасцвердзіцца?

**Д. Б.** Мне здаецца, цяперашніх маладых ты павінна лепш за мяне ведаць. Усё ж яны табе бліжэй. Дык вось ты і паразважай, а я паслухаю. Бо людзі могуць падумаць, што я не даю табе выказвацца.

**Л. К.** Калі гаварыць пра сённяшніх «дзяцей», то бацькаміі-натхняльнікамі іхнімі добра глядзяцца маладнякоўцы.

Скажам, да сённяшняга часу пакаленне «Тутэйшых» ужо паспела прадэманстраваць «сваё» гіпертрафіраванае «я»: як маладнякоўцы абвяшчалі якасна новую пралетарскую культуру, так сённяшнія — культуру «еўрапейскую»... Сённяшняя моладзь, гэтаксама ж як моладзь 20-х, дападная да вынаходніцтва веласіпедаў: параўнаем рамантызм дасавецкага Купалы з рамантызмам маладнякоўцаў; і, напрыклад, культуру мовы сённяшніх «бацькоў» і «дзяцей». Відавочны ў моладзі канца 80-х таксама максімалізм з пераходам у безразважнасць: кансерватызм нацыянальнай традыцыі маладыя прыраўноўваюць да рэакцыйнасці. А што, як не кансерватызм, адыгрываў ахоўную, збіральную для нацыянальнага радаводу ролю ў асімілятарскія савецкія ці разбуральна-рынкавыя часы? Як быццам тое, што некаторыя старэйшыя пісьменнікі зрабіліся залішне навязлівымі, касуе ўсю нашу ваенную прозу. Ці быццам беларускамоўныя трылеры сёння маюць шанс дараўняцца папулярнасцю ў беларускага масавага чытача да такога былога бестселера, як «Сэрца на далоні».

І глыбейшая паралель — гэта адвечная бліскучая пасіянарнасць маладых, што адвечна імкнецца да энтрапіі. Сёння гэта юнацкі імпэт, унутраная свабода ад сацрэалістычных стэрэатыпаў, ад рабскіх псіхалагічных комплексаў — усё гэтае багацце ці не ў першую чаргу выдаткоўваецца, як і ў 20-я гады, на махровую групаўшчыну.

На нашых вачах тыпалагічна паўтарылася літаратурная сітуацыя 20-х гадоў. Бо ёсць такія непазбежныя ў літаратуры часы, калі існаванне груповак, плыняў, рухаў выходзіць на першы план; калі робяцца важнымі маніфесты, калі многа значыць заяўленая пазіцыя, калі гэтая пазіцыя міжволі прыцягвае ўвагу нават большую, чым сам яе ўласна-мастацкі плён. Нездарма сказана: «Юность — это возмездие...»

Праўда, падобныя часы заўсёды вельмі хуткаплынныя, бо залежныя ад грамадскай сітуацыі. І вось ужо тое, што яшчэ ўчора было амаль адназначным, сёння набывае новыя якасці, змяняецца непазнавальна... Неадменным жа ў мастацтве заўсёды застаецца толькі талент.

**Д. Б.** А ці не залішне рэзка ты пра іх? Я ж да таго, што ўжо гаварыў на гэты конт у адказе на лімаўскую анкету, дадам толькі вось што. «Меркантыльнае жаданне самасцвердзіцца» ў цяперашніх маладых, вядома, ёсць. Яно было заўсёды. Будзе, значыць, і надалей. Гаворку можна весці адно аб правамернасці шляхоў, якімі самасцвярджэнне дасягаецца. Пэўная культура і нават далікатнасць тут, як на добры лад, павінны быць. Гэтага ж часта бракуе. І яшчэ: яўна заўважаецца ў сучасных маладых агрэсіўная нецярпімасць да любой крытыкі. Маўляў, не чапай нашых. А чаму? А што да светапоглядных аспектаў, дык яны зусім відавочныя. Сёння нам усім даводзіцца перагледаць і сваё жыццё, і адносіны да рэчаіснасці, і да тых міфаў, якімі нас карміліна працягу дзесяцігоддзяў. Дай Божа, каб гэтаму плённаму працэсу не перашкодзіў які-небудзь новы путч, які адразу перакрэсліць і ўсе спадзяванні, і літаратурныя спрэчкі.

А пры добрых варунках з самых апантаных і задзірыстых спрэчак у канчатковым выніку выходзіць і нешта людскае.

## КНІГАПІС

Н. ГІЛЕВІЧ. Выбраныя творы ў двух тамах. Мінск. «Мастацкая літаратура», 1991.

**Творчасць народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча — адна з яркіх старонак сучаснай беларускай літаратуры. У двухтомнік выбранага ўвайшлі лепшыя яго творы. Першы том склалі вершы, паэмы, напісаныя ў розныя гады, а таксама п'есы «Не кажы гоп...», «Начлег на буслянцы», «Першая ноч на курорце» і іншыя. Другі том — знакаміты раман у вершах «Родныя дзеці», аповесць «Перажыўшы вайну», шматлінія эсэ. Адкрываецца першы том не традыцыйным артыкулам каго-небудзь з крытыкаў, а словам самога аўтара «І ўсё-такі я веру!», з якога выразна бачна грамадзянская, пісьменніцкая, чыста чалавечая пазіцыя Н. Гілевіча.**



Р. РОДЧАНКА. Слуцкая старасветчына. Факты і разважанні. Мінск, «Полымя», 1991.

**Случанін Рыгор Родчанка — адзін з вядомых беларускіх краязнаўцаў-даследчыкаў. Ёсць у яго і свая пастаянная дзялянка — пільнае стаўленне да таго, што тычыцца багатай гісторыі Случчыны. Аўтарскі апошняд ахоплівае прамежак часу, пачынаючы ад Кіеўскай Русі і да канца дзевятнаццатага стагоддзя. Паўстаюць вобразы тых, хто праславіў сваімі справамі Случчыну — Саламона Рысінскага, Яна Андрэя Белабоцкага, Мануіла Казачынскага і іншых.**

«У Гродне мы пазнаёміліся з цікавым беларускім пісьменнікам Філіпам Сямёнавічам Пестраком. Ён 11 год прасядзеў у польскай турме і толькі прыход Чырвонай Арміі вызваліў яго адтуль. 11 год ён не меў ні паперы, ні алоўка. Складаў свае вершы напамяць і завучваў іх. Зараз тав. Пестрак успамінае і запісвае свае вершы».

**М. Клімковіч.**

4 лістапада 1939 г.



Іван Мележ у час работы над раманам «Людзі на балоце».

**пра нашых Янку Купалу і Максіма Багдановіча! У чым іх толькі не абвінавачвалі! Паклёпнікам пасля было, пэўна, сорамна за сваю пісаніну, бо нездарма з падшывак «ЛіМа» ў Ленінскай бібліятэцы ў Маскве ўсе гэтыя артыкулы павыразаны — няйначай самі ж аўтары папрацавалі».**

**З «ЛіМа» я аднойчы даведалася, што мае адбыцца вечар, прысвечаны 30-годдзю з дня апублікавання першага твора Якуба Коласа і што на ім будзе выступаць Янка Купала. Я трапіла на вечар і там упершыню пабачыла і пачула Янку Купалу. Ён выйшаў на сцэну тэатра, які зараз носіць яго імя, пачаў гаварыць праніклёнае слова пра сябра, але раптам змоўк, слёзы пакаціліся з вачэй, урэшце ён прачытаў свой верш, прысвечаны Коласу.**

**У сувязі з «ЛіМам» успамінаецца і незабыўны Іван Паўлавіч Мележ. Гэта быў далікатны, шчыры, удумлівы чалавек. Заўсёды прыходзіў да нас у бібліятэку і цікавіўся, як успрымаюцца яго творы, ці чытаюцца, ці ёсць заўвагі. Загадчык нашага аддзела Адам Антонавіч Сакольчык прачытаў у «ЛіМе» ўрывак з ягонага рамана і зрабіў заўвагу, што да рэвалюцыі карова і парканль каштавалі не столькі, колькі Мележ напісаў у «Людзях на балоце». Пісьменнік падзякаваў і выправіў памылку.**

**За гады, што прайшлі ад пачатку, былі ў «ЛіМа» і ўзлёты, і падзенні. Найбольшага ўзлёту «ЛіМ» дасягнуў, мабыць, калі рэдактарам быў Анатоль Вярцінскі.**

**Сённяшні «ЛіМ» я люблю за яго непахіснасць, мэтаімкнёнасць, настойлівасць у пытаннях Адраджэння. Але мне здаецца, што сёння ён дужа запалітызаваны. Ці не зашмат палітыкі? А вось літаратурнае жыццё асвятляецца недастаткова поўна. Зараз я ўжо нідзе не бываю, а «ЛіМ» не заўсёды гаворыць мне пра новыя імёны, пра цікавыя новыя кнігі. Мала і грунтоўных артыкулаў аб літаратуры. А ў загалоўку ж газеты першае слова «літаратура». Хай лімаўцы памятаюць пра гэта...**

**Ніна ВАТАЦЫ.**

**ЯНЫ РЭДАГАВАЛІ «ЛіМ»**

## Леанід ПРОКША:

# «Шмат залежала ад саміх рэдактараў»

Перш чым стаць рэдактарам «ЛіМа» я, як і многія, быў яго аўтарам. У газеце друкаваліся мае артыкулы, успаміны, гумарэскі. Да мяне прыхільна ставіліся такія супрацоўнікі, як Р. Сабаленка, Р. Бярозкін, С. Шушкевіч, А. Ралько, Б. Бур'ян, У. Мехаў. У аддзеле культуры ЦК, куды мяне паклікалі з прапановай узначаліць «ЛіМ», я сказаў, што на гэтай пасадзе бачу больш вядомага, больш значнага пісьменніка. Акрамя таго, я вярнуўся ў Мінск толькі ў 1956 г. (служыў у Савецкай Арміі) і крыху адышоў ад літаратурнага жыцця, не ўсіх пісьменнікаў ведаў. Праўда, вопыт журналісцкай работы ў мяне быў: я рэдагаваў адзін час газету «Голас Радзімы», а ў вайну быў намеснікам рэдактара франтавой газеты.

Прадстаўлены калектыву ў новай якасці, я, помніцца, сказаў, што працаваць тут пасля Пашкевіча — усё роўна як выходзіць на трыбуну пасля добрага прамоўцы.

Пры мне прыйшлі ў газету В. Іпатава і В. Карамазаў, аддзелам літаратуры загадваў А. Грачанікаў. Пазней гэты аддзел мы падзялілі на два, і М. Гіль стаў займацца крытыкай. Туды ж узялі М. Стральцова, хоць ён пратрымаўся ў нас нядоўга.

Змяніўся фармат газеты. З 26 красавіка 1970г. «ЛіМ» стаў штотыднёвікам на 16 старонках. У сувязі з гэтым успамінаецца такі эпізод. На першай паласе планавалі даць здымак праекта помніка Янку Купалу А. Анікейчыка. Калі я прынёс макет у аддзел культуры, там не ўсе пагадзіліся з нашай задумай.

— А я все же открыл бы номер Лениным,— кажа адзін таварыш.

— Мы давалі партрэт Леніна ў папярэднім нумары,— запярэчыў я.— Мо не трэба рабіць Леніну мядзведжую паслугу?

Загадчык аддзела вымушаны быў пагадзіцца з думкай рэдакцыі.

Другі эпізод: 28 верасня таго ж года «ЛіМ» надрукаваў мой артыкул «Праўда партызана Сотнікава» пра новы твор Васіля Быкава. Аповесць «Сотнікаў» у перакладзе змясціў «Новый мир», у нас яе ідэалагічная служба не прапускала ў друк. Як жа ўдалося выступіць са станоўчым водгукам? А здарылася так: калі я панёс артыкул на ўзгадненне, яго нават не захацелі ўзяць у рукі. Маўляў, выкіньце з галавы. Ну, не хочаце — і не трэба. Я забраў яго і даў у бліжэйшым нумары. Натуральна, падняўся вэрхал. Артыкул жа, мне расказаў А. Куляшоў, пазней пераклалі на рускую мову спецыяльна для рэдактара «Нового мира» — каб ён адчуваў падтрымку.

Так што многае залежала не толькі ад кіраўніцтва, але і ад саміх рэдактараў, ад іх настойлівасці.



*Алесь Масарэнка*

# У ЦЫРУЛЬНІ

*апавяданне*

ЧАМУСЬЦІ ў мужчынскім салоне нікога не было, і ён, доўга не думаючы, усеўся ў крайняе, першае ад уваходу крэсла і нарыхтаваўся чакаць. Яшчэ толкам не агледзеўся, як з-за квятастай шырмы выйшла даволі зграбная, з лёгкай таліяй маладзічка. Яму адразу кінулася ў вочы яе дбайна ўкладзеная прычоска, падобная на добра ўляжалую, абветраную капешку сена, зверху прыцярушаную ранішнім інеем.

Пакуль маладзічка акрывала яму плечы белай прасцінкай і пыталася, на які фасон стрыгчы, ён здзіўлена і не без стоенага захаплення думаў: «Ну трэба ж такое змастачыць — на старэйшую за сябе падрабілася... Недзе гадоў на дзесяць, а то й болей надбавіла. З выгляду, бачу, стала мне блізка не роўня... Вось і не загавары з такой. Ах, жанчыны, жанчыны — усё вы можаце!»

Ён шчыра, замілавана любаваўся яе, хоць далёка і не першай, а ўсё ж яшчэ даволі буйнай маладосцю. Праз люстэрка, што было насупраць, бачыў, як рахмана, са спрытам і ўвішнасцю ўходжвалася яна з яго запушчана-непрыглядней чупрынай. А зрэшты, пра сябе яму не было калі думаць. Забрала ўсю ўвагу яна — цешыла тое, што ейная маладосць, тонка падробленая пад яго пажылы ўзрост, як бы самахоць, ахвяруючы сабой, настойліва білася ў збуцвелыя, але не зусім яшчэ спрахлыя дзверы ягонага сэрца. Ён з прыемнасцю супакойваў сябе тым, што сярод жанчын, на шчасце — ну так, на шчасце! — часам усё ж надараецца сустрэць і такую вось мілую асобу, якая, пэўна ж, падобнымі пераўвасабленнямі адкрыта, знарок адмяжоўваецца ад сваіх аднагодкаў дзеля таго толькі, каб у першую чаргу падняць ветравей у душах такіх вось, як хоць бы і ён, адзінцоў-нешчаслівіцаў, вярнуць ім — няхай і часова — даўно прыснулае пачуццё аблады...

Так, ён — самы сапраўдны нешчаслівец, калі нават не горш. Такая ўжо, мусіць, планіда яго — сямейная жытка і раз, і другі не ўдалася. Трэба ж, паўстагоддзе за плячыма, здавалася б, самы пік яго ўзросту, а ён, роўна які маладзёнак, марнуецца ў адзіноце. І не хворы, і не з порчамі. Аднак жа — не такі, як усе, не звычайны. І праўда, калі не мяшком з-пад мукі, дык нечым больш лёгкім — авоськаю, можа, а ўсё ж такі прыпылены...

Ну, хто іншы мог бы так паставіцца да свайго юбілею? Жыў і гадоў не лічыў. Спахапіўся, бадай, гадзіну-дзве назад: маўляў, заўтра — дзень нараджэння... Ах, ох — яму ж пяцьдзесят ужо! Дзіва што — лічба проста знянацку падкралася, раптоўна... З гэтай прычыны і завітаў напачатку ў цырульню, каб хоць які марафет навесці збольшага. А там — яшчэ нешта прыдумаецца. У яго не было сумневу — жыццё само напіша выдатны сцэнарый ягонага свята, адно трэба не быць упартым і ўмець падпарадкоўвацца абставінам. Душу грэла надзея: усё адбудзецца так, як ён таго і жадае — хораша і без нервовай мітусні.

І вось — ён ужо не ён, а ўсяго толькі персанаж сцэнарыя. Гэты жанр, як правіла, патрабуе выключнай драматургіі, і яна, пэўна ж, будзе. Жыццё — заўсёды цярністы шлях, асабліва калі ідзе па ім няўдачнік.

— Даруйце за пытанне... Скажыце, вы гэтак падрабіліся ў знак салідарнасці са мной?

— А што — не падабаецца? — сцярожка спытала маладзічка.

— Наадварот — вельмі нават падабаецца... Скажу болей: прычоска ваша проста сімвалічная нейкая. А для мяне — яшчэ і небяспечная.

— Ды вы, дзядзечка, самы што ні ёсць фліртун... Няйнакш — разжэня, га?

— І даўно ўжо... Двойчы разжэня. Таму і прыглядаюся часам да такіх вось, як вы, павабных красуняў — выбіраю, каб і не старая была, але ж і не замаладая каб... Калі шчыра, дык мне па сэрцу такая вось, як ваша сівізна.

— Эйш, чаго захацелі...

— Чаго?... Сівізна — гэта знак якасці чалавека, яго духоўны ўзлёт, калі хочаце. Вы ж, пэўна, знарок паднялі планку якасці, каб стаць прадстаўніком майго пакалення, скажам. Хіба не так?

— Я не думала аб гэтым... Проста ў мяне такая прычоска. Без аніякіх там сімвалаў, — маладзічка прыязна ўсміхнулася.

— Вот я зараз падлашчваюся да вас — і ані не адчуваю сораму. Вы для мяне роўня... Я маю права прапанаваць вам руку і сэрца. А ўсё — гэтая ваша прычоска.

— Ой, дзядзька, на мяне ў вас грошай не хопіць.

— Грошы — не дэфіцыт у наш час... Абы духу хапіла.

— Духу?!. Ха-ха-ха-а... Духам я з вамі магу падзяліцца. Не хопіць майго — у Тані пазычым, — яна кіўнула ў бок сяброўкі, якая толькі што падышла да суседняга крэсла.

— Хоць зараз... — Таня сцішана захіхікала ў кулачок. — Абы грошы... — І ўзрушана, весела: — Светка, ты не спяшайся — заадно ўжо і пагалі свайго кліента... Ды не забудзь пазначыць, каб не згубіўся пасля: адрэж яму на першы раз вуха. Брытву даць?

— Што мне твая самалдыка — сваю такую ж маю тупіцу. З чым іншым, а з вухам упраўлюся...

— Вуха можаце, Святлана, і не чапаць пакуль, а пагаліць дазваляю і гэтай, як вы сказалі, тупіцай вашай, — згодліва кіўнуў ён. — Праўда, маю бараду трэба харашэнька распарыць, намыліць... Памацайце: не шчаціна — дроцце сталёвае, мудрэйшае, чым у аднагодкаў вашых...

Дарма ён згадаў аднагодкаў — Святлану нечага як падмянілі: ураз замоўкла, зацялася, і ў яе рухах, яму падалося, ужо не было ранейшай зладжанасці і спрыту.

— Дык вас пагаліць? — нягучна і цёпла прагучала ў яго над вухам.

— Звычайна я сам галюся — рукі ж пакуль яшчэ не трасуцца, — паспрабаваў зноў вярнуць гаворку ў ранейшае рэчышча, але ўжо адчуваў пэўна, што жартаў досыць, не да месца яны.

Сапраўды, і яна нічога не згадала хоць бы і пра ягонае вуха, якое толькі што збіралася адрэзаць. Дзіва што, іх перамова, якой здавалася, не будзе канца, пачала спатыкацца, бы споены ў дарозе конь.

Завітаў у цырульню модна апрануты малады чалавек, з выгляду араб ці, можа, які палесцінец, павітаўся з Таняй на вельмі прыблізнай рускай мове, усеўся ў крэсла, і Таня з увішнасцю ўзялася ахарошваць яго кучаравіста-смольныя пэйсы.

Сцэнарый яўна не вытанцоўваўся — гераіня, па ўсім відаць, спынілася на раздарожжы і не ведае, у які ёй бок трэба. Герой — таксама не мычыць, не целіцца...

Святлана зняла нарэшце з яго плячэй прасцінку, лёгка махнула шчоткай яму па загрыўку, узяла пульверызатар і апырскала адэкалонам усю чупрыну. Зноў жа — рабіла гэта ўвішна, спрытна, прыгожа.

Ён сядзеў, акурат на гарачым вуголлі — нечага разгубіўся, марудзіў, і не смеў загаварыць з ёй пра іх наступную сустрэчу.

— Калі ласка, — сказала яна.

Па ўсім відаць, яму трэба падняцца і выйсці...

Яна назвала суму, якую тут жа ўнесла ў ведамасць. Ён падзякаваў. Няспешна пакінуўшы крэсла, затрымаўся на хвілю перад люстэркам, узяў ведамасць і панёс у касу, што была ў калідоры. Азірнуўся.



60 ЛіМ

# Гэта было, было...

«Загадам Беларускага штаба партызанскага руху пісьменнікі Якуб Колас, Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Ілья Гурскі, Алесь Кучар, Міхась Машара, Пімен Панчанка і Цімох Крысько ўзнагароджаны медалём «Партызану Айчыннай вайны» І ступені за актыўны ўдзел у арганізацыі партызанскага руху на Беларусі. Медалём «Партызану Айчыннай вайны» І ступені ўзнагароджаны таксама нябожчык Кузьма Чорны».

10 красавіка 1945 г.

Без подпісу.

«А некаторыя пісьменнікі ідуць яшчэ далей: адраджаюць вобразы гусляроў, музыкаў, баянаў, якія сваімі песнямі ўздымаюць людзей і г. д.

Вядома, такі вобраз лягчэй стварыць, чым, напрыклад, вобраз камандзіра сучаснай вайны — смелага, мужнага, чалавека вялікага інтэлекта і сэрца, які бліскуча валодае сталінскай стратэгіяй перамогі».

20 чэрвеня 1945 г.

Без подпісу.

«Масква. Крэмль. Вялікаму правадыру народаў, Генералісімусу Савецкага Саюза І. В. Сталіну. Ад працоўных Беларускай ССР.

Вечна будуць жыць у сэрцах беларускага народа бязмежная ўдзячнасць і найглыбейшая адданасць Вам, наш вялікі правадыр і настаўнік, за штодзённую ўвагу, якую Вы аказвалі і аказваеце Беларускай дзяржаве...

Пісьмо падпісалі 2547360 працоўных Беларускай ССР».

12 ліпеня 1945 г.

«Амаль бесперапынныя дажджы не ўплываюць на настрой лонданцаў. Яны, як заўсёды, сур'ёзныя, дзелавітыя і нічым не парушаюць заведзенага парадку. У 8 гадзін яны акуратна ядуць свой брэкфост (сняданак), у 9 ідуць на работу, а першай гадзіне ядуць ланч (абед) і да 6 гадзін работу канчаюць. У іх яшчэ застаецца тры гадзіны, каб схадзіць у кіно або тэатр».

16 сакавіка 1946 г.

**Кандрат Крапіва.**

«Фільм «Клятва» апавядае пра ажыццяўленне вялікай клятвы, якую таварыш Сталін даў ад імя партыі бальшавікоў над трунай Уладзіміра Ільіча Леніна. Словы клятвы Сталіна над магілай заснавальніка сацыялістычнай дзяржавы збыліся і фільм з'яўляецца першым мастацкім творам, які адлюстроўвае ўрачыстасць і перамогу думкі і слова чалавека-бальшавіка».

10 жніўня 1946 г.

**І. Грамовіч.**

«Трэба сказаць, што ні ў творчасці А. Вялюгіна, ні наогул у нашай паэзіі няма фармалізма як сістэмы, як плыні. Але за-



Прэм'ера камедыі А. Макаёнка «Лявоніха на арбіце» ў Беларускім акадэмічным тэатры імя Я. Купалы.

## СЛОВА ПРА ЮБІЛЯРА

**З «ЛіМам» я пазнаёміўся яшчэ да ўз'яднання Беларусі. У Вільні ў бібліятэцы імя Урублеўскіх, дзякуючы знаёмаму, я меў магчымасць чытаць усе нумары. Для мяне гэта было акно не толькі ў беларускую, але і ва ўсю савецкую літаратуру: літаратурная панарама прадстаўлялася досыць шырока.**

**Не спадзяваўся, што так хутка настане час, калі я змагу не толькі свабодна чытаць газету, але і сустрэцца з яе супрацоўнікамі. Рэдактарам тады быў І. Гурскі. Неўзабаве я ўбачыў на старонцы падборку сваіх вершаў. Парадаваў і ўдумлівы артыкул А. Куляшова пра маю паэзію. Заўважу, што пра пісьменнікаў Заходняй Беларусі ў той час яшчэ не ўсе асмельваліся пісаць... У «Вілейскай праўдзе», дзе я працаваў, мяне ўсе віншавалі. Запомнілася тая падзея, як свята.**

**На маю думку, самы цікавы перыяд сваёй гісторыі «ЛіМ» перажывае сёння. Адно, каб ён не застыў на пэўных канонах, не замкнуўся ў сваіх палітычных сімпатыях. Бо на пошуках і памылках больш вучацца, чым на самых правільных ісцінах.**

**Хацелася б, каб у юбілейным годзе «ЛіМ» больш удзяляў увагі творам маладзейшых. Прыемна, што пашырыліся межы газеты, што яна стала трыбунай і для тых беларусаў, наго лёс раскідаў па ўсім свеце. Праўда, не ўсё, што з-за мяжы, геніяльнае (з мастацкага боку), ды гэта ўжо іншае пытанне.**

**Што ж да палітыкі, то на ёй мы спыняцца не будзем. Бо жыццё развіваецца, ідзе сваім шляхам, вымушаючы нас пераглядаць самыя ўстойлівыя свае ўяўленні...**

**Максім ТАНК.**

Не, яна следам не ішла. Разлічыўся, пасунуў да сябе ведамасць і на яе другім баку, чыстым, напісаў колькі слоў да Святланы — прызначыў ёй спатканне...

Сустрэліся яны праз дзень.

Ён прапанаваў правесці вечар у рэстаране, але яна адмовілася, сказала, што мае траіх дзяцей: двух сыноў-блізнятак, пяцікласнікаў, і дачку, яшчэ дашкольніцу. З дзецьмі засталася свекрыва, і пазніцца не з рукі: каторы ўжо год, як мужа не стала, Святлане даводзіцца вось так, дзе б ні была, спяшацца дадому — дзяцей укладвае спаць сама, і гэтага раскладу яшчэ не парушыла ні разу.

Не паехала яна і да яго ў госці — на гарбату хоць бы, калі ад спіртнога адмовілася. І ён не зекрыўдаваў, не расчараваўся — наадварот, яшчэ больш паважлівей паставіўся да яе, калі стала распавядаць пра свайго мужа, які быў афіцэрам, служыў у сапёрным батальёне. Глыбокай восенню загінуў Валодзя — так яна называла мужа — на размініраванні дарогі непадалёку ад Кундуза. Пахаванка прыйшла чамусьці толькі пад Новы год. Труну з нябожчыкам не прывезлі, і давялося звяртацца ў ваенкамат, дзе ёй, зрэшты, і паведамілі, што астанкаў сабраць не ўдалося...

З прычоскай сваёй Святлана ніякіх штук не рабіла — пасівела адразу ж, за адну ноч, тую самую, калі вярнулася з ваенкамата. Яна як села ў крэсла, так і прасядзела да раніцы, нічога не бачачы і не чуючы... Доўга і роспачна, уголас, плакала — прасіла Бога, каб вярнуў ёй Валодзю, каб усё гэта было памылкай... Яго няйнакш у палон узялі, можа, недзе жывы...

Так, яна плакала, але — гэта добра помніць — слёз не было: крынічную бруйку, праз якую ішлі ў яе сэрца сокі жыцця, перацяў скрушны боль.

## Алесь ПІСЬМЯНКОЎ



### Вячэрняя малітва

Даруй мне, Божа,
Што я, не вернік,
Цябе трывожу
У час вячэрні.
Я веру, Божа,
Што нас не кінеш,
Што ты паможаш
Маёй Айчыне.
Паможаш маці,
Паможаш роднай,
На ногі ўстаці
У час гаротны
І дабрадзею,
І ліхадзею
Дасі надзею,
Дасі надзею...

### Продкі

Калі марнею ад нягод
І сэрцу цесна,
Я ўспамінаю радавод
І продкаў песні.

Яны ідуць за годам год
З мячом і з плугам.
О, мой нязводны род,
Ён моцны духам!

Імёны памяць берагла,
Вяла праз церні,
Каб я не сеяў зла,
А толькі — зерне.

Да іх іду я зноў і зноў,
Ім веру свята.
Таму й вяду сваіх сыноў,
Да іх на раду.

●

Крытык кажа:
«Традыцыйна».
Крытык кажа:
«Пачуццёва».
І прысуд мне афіцыйны
Ён выносіць канчатковы.
Ах ты, крытык-аналітык,
Ты сціпло дарэмна мучыў.
Ці падумаў хоць калі ты,
Што не той я школы вучань,
Што ў настаўнікаў суровых
Я даўно ужо навучан:
Традыцыйна,
каб — жыццёва,
Пачуццёва,
бо — балюча...

### Развітанне з Туманам

...А ты даверся чалавеку,
Свой падзялі са мной настрой
На схіле дня,
на схіле веку,
на схіле восені сырой.
Ці ты адчуў дыханне сцюжы,
Ці замаркоціў лістабой?
Ты выбачай, што я задужа
Заняты быў самім сабой.
Ды сёння я выдатна бачу,
(Ты не прымі адно за здзек)
Што вёў сябе я па-сабачы,
Ты ж паступіў — як чалавек.
І ўсё ж ты даверся чалавеку,
Свой падзялі са мной настрой
На схіле дня,
на схіле веку,
на схіле восені сырой.

### Антычны матыў

А нас ухваліць Эпікур,
А Дыяген асудзіць нас.
Ды не старэе бог Амур
І не губляе марна час:
Аднекуль стрэлаў навалок,
Ужо ўскінут лёгкі лук.
Ён — найвыдатнейшы стралок
І закаханых верны друг.

О, як страла яго звініць!
(Я кожны стрэл гатоў вітаць).
А Дыяген няхай бубніць —
Злуе ад зайздрасці, відаць.

### Піліп з Канапель

#### Верш-пастскрыптум

Аднойчы на сойміку магната Радзівіла нечакана і недарэчна выказаўся шляхціц Піліп з Канапель і быў востра высмеяны.

Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў.

Ну, а што калі б
Змоўчыў ты, Піліп!
Што калі б стрываў,
Ці калі б драмаў!
Як драмаў Цімох
Са Старых Дарог.
Ну, вядома, пагулі б,
Ну, вядома, папілі б,
Ну, вядома, за кабет —
Бойкай скончылі б абед.
А уранні — да сядзіб,
Дзе сям'я адна сядзіць.
Сумна павячэраўшы,
Гадавалі б чэрава.
Хто б успомніў і калі
І цябе, і Канаплі!

●

На самым дне маёй самоты...
А што, а што на самым дне!
Віно не лечыць адзіноту,
Хоць кажуць, ісціна ў віне.

І толькі чуецца мне востра
Мая часовасць на зямлі,
І толькі бачыцца мне востраў,
Дзе вы ні разу не былі.

●

...І сказала бабуля хворая,
Ідучы да Усявышняга:
«Даравацъ навучыся ворагу,
Любіць навучыся бліжняга».
Яна простай была жанчынай.
Ціхая,
Добрая,
Слаўная.
А я — піянерам дружыны
Сумна вядомага Паўліка...

### Не журыся, хлапеча

(Застольная песня да кінафільма «Богу і д'яблу»).

Не журыся, хлапеча,
Што памрэш не на печы.
Ганарыся, хлапеча,
Што загінеш у сечы.

Што паненкі ў фальварках
І мястэчках папоўны
Уздыхаюць і мараць
Пра спатканні пад поўняй.
Напоўні!
Напоўні!!
Напоўні!!!

Ты ж у лёсу не лёкай
І не служка у д'ябла,
Пакуль трапнае вока,
Пакуль вострая шабля.

Ты ж радзіўся ў сарочцы,
А хрысціўся у сечы.
Ёсць віно яшчэ ў бочцы,
Не журыся, хлапеча.

Нас чакаюць не марна,
Нас кахаюць і помняць
І паненкі ў фальварках,
І ў мястэчках папоўны.
Па поўнай!
Па поўнай!!
Па поўнай!!!

●

Леаніду ДРАНЬКО-МАЙСЮКУ

Ад неба блізкі, ці далёкі,
І у царкве, і на піру
Паэт заўсёды адзінокі,
Я гаварыў і гавару.

І дакараць яго не трэба —
Яго і так туга шкрабе:
Ён гаманіў нядаўна з небам,
А зараз слухае цябе.



лішняя, безразважлівая пагоня за арыгінальнай метафарай прыводзіць да асобных фармалістычных галаваломак. (...)

Гэтая пагоня за арыгінальнасцю нагадвае анекдот, які Янка Купала любіў расказваць, як быль. Іван Дамінікавіч гаварыў, што ў іх мясцовасці жыў шляхціц, які быў вялікім ахвотнікам да высокага стылю. Спатрэбілася яму раз пазычыць дошчак, і ён напісаў суседу прыблізна такі ліст:

«Шаноўны суседзе-дабрадзею!

Не так, каб вельмі, але так, што як ніколі, і наогул, як заўсёды колькі таго —чаго, але яно сёетое».

А ў пастскрыптуме напісаў: «Прашу пазычыць шэсць дашчак».

У паэзіі ў такіх выпадках трэба пакідаць толькі пастскрыптум—тады ўсё будзе зразумела».

(З выступлення П. Глебкі на рэспубліканскім з'ездзе пісьменнікаў).

20 сакавіка 1948 г.

«Адбыўся жалобны мітынг у Мінскай кансерваторыі і Музычным вучылішчы. Пры адкрыцці мітынгу прафесары М. Аладаў і М. Бергер выканалі на фартэп'яна жалобны марш Бятховена.

— Таварышы, — сказаў прафесар А. Амітон, — памёр буйнейшы дзеяч нашай партыі, верны саратнік таварыша Сталіна — Андрэй Аляксандравіч Жданаў. Гэта надзвычай цяжкая страта. Імя таварыша Жданава было адным з папулярнейшых імён у нашай краіне...»

4 верасня 1948 г.
Без подпісу.

«Першае студзеня 1949 года — зусім незвычайны дзень для беларускага народа. Трыццаць год беларускі народ мае сваю дзяржаўнасць, сваю мову, свае тэатры, сваю акадэмію, свае песні, свой універсітэт, свае школы».

1 студзеня 1949 г.
**Л. Александроўская.**




Дні польскай літаратуры ў Беларусі. Навагрудак. 1976 г.

**ЯНЫ РЭДАГАВАЛІ «ЛіМ»**

## Хведар ЖЫЧКА: «Нам здавалася, што мы служым народу»

Перш чым гутарыць з вамі, перагартаў камплекты газеты за той час, калі я рэдагаваў яе (1972—1976), і перад вачамі замільгалі ўсе колеры тагачаснага жыцця. Той эпохі, якая так дакладна апісана ў славутай «Лысагорскай паэме»: «Быў час, быў век, была эпоха...» Нават не верыцца, што мы так жылі, так думалі, так пісалі... Але ж з песні слова не выкінеш...

VI з'езд пісьменнікаў Беларусі паставіў перад работнікамі пяра новыя задачы — асвятляць наш «магутны поступ наперад», «ствараць творы, дастойныя нашага гераічнага народа». На гэтым з'ездзе «ЛіМ» крытыкавалі многія і за многае (не тых хваліць, дае неаб'ектыўныя ацэнкі твораў і да т. п.). Я таксама выступаў і таксама крытыкаваў і ведаць не ведаў, што праз нейкі год мяне самога будуць «лупцаваць» за гэткія ж недахопы.

ЦК КПБ тады ўзяў лінію на збліжэнне інтэлігенцыі з жыццём народа, для чаго арганізоўваў мноства мерапрыемстваў: Дні беларускай літаратуры ў сваіх жа абласцях, у Літве, Дні чувашскай, польскай, літоўскай, украінскай літаратур у Беларусі, семінары і сустрэчы, выязныя пасяджэнні прэзідыума СП БССР і г. д. Усе яны арганізоўваліся па тыпу паездкі Кацярыны II у Таўрыду, з пацёмкінскімі вёскамі па дарозе. А «ЛіМ» абавязаны быў шырока асвятляць гэтыя падзеі, цэлыя нумары ім прысвячаць, друкаваць пераклады — прытым не з арыгіналаў, а з рускіх перакладаў. Сюды ж трэба дадаць юбілеі — рэспублік, арміі, прарываў блакады, вызвалення гарадоў... «Нядрэмнае вока» пільна сачыла, каб усе падзеі былі адзначаны ў газеце належным чынам.

Што ж да іншага, то асабліва шмат мы друкавалі паэзіі. З прозы ішлі ў асноўным урыўкі з аповесцей і раманаў. Крытыка? Вядома, якая ў той час была крытыка. «Сучаснік у працы і ў літаратуры» — вось фармулёўка адной з дыскусій. Дасягненнем рэдакцыйнага калектыву я яе, вядома, не лічу.

Увогуле я знаходзіўся паміж двух агнёў — паміж ЦК і Саюзам пісьменнікаў, сярэдні ўзрост якога, дарэчы, падыходзіў да 60 гадоў. За што толькі ні цягалі мяне ў ЦК! Нават за пераблытаныя строфы ў вершах М. Барсток і П. Прануzы. Перад тым я працаваў у выдавецтве (як і пазней), я любіў гэтую работу, любіў кнігу. Быць начальнікам — праціўна маёй натуры, вось у чым парадокс! А яны яшчэ думалі, што я трымаюся за сваю пасаду...

Не выпадае сёння ні выхваляцца сваімі дасягненнямі, ні раскайвацца за памылкі і абмежаванасць мыслення. Усе мы тады жылі іншым жыццём, чым сёння, усім нам здавалася, што мы служым народу. І хоць пра той перыяд у мяне засталося нямала горкіх успамінаў, я ні на кога не трымаю зла...

## З ЛІТАРАТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ

З творчасцю Ларысы Геніюш і з ёй самой, якой выпаў нялёгкі жыццёвы лёс, мне давялося пазнаёміцца за паўночным Уралам, у лагеры. А пасля, значна пазней, пачынаючы з 1970 года, я бываў частым госцем у яе дома на радзіме ў гарадскім пасёлку Зэльва. І сёння хачу прадставіць некалькі вершаў паэтэсы, якія яшчэ не нюхалі друкарскай фарбы, але сугучныя часу.

Мікалай КАНАШ.
г. Жлобін.


Ларыса Геніюш з мужам Іванам Пятровічам. Зэльва. 1973 г.

### Ларыса ГЕНІЮШ

●

Неўміручасць даўніх пакаленняў,
Водгулле мінулага быцця,
Мы як сведкі вашага існення,
Ваш далейшы паясок жыцця!

І хоць ходзім сёння не у тканым,
Вучаць новым праўдам наравіць,
Усё ж мы ворагу не аддамо затанна
Спадчыны, што неслі у крыві!

Не забудзем людскасці, ні мовы,
З працавітых, здолеем стрываць
Над народам здзек стары і новы—
Нам душы крывіцкай не прадаць!

Шмат адыдзе хілых, бесхрыбетных,
Не заплачам, не прывыклі ныць.
Сто арлоў к нам прыляціць за гэта,
Каб народу праўдаю служыць!

І не сціхне песня ў Прынямонні,
І не згіне мова на Дняпры,
Прыйдзе час, і водгулле Пагоні
Да сялібаў данясуць вятры!

Страпянецца сэрца з падняволля,
Устане мужны гаспадар зямлі,
У нашым краі ў прадзедавым полі
Будзем жыць мы, як вякі жылі!

Залунае сонечна Пагоня,
Мужны рыцар, крыж і белы конь,
І народ наш болей не застогне,
Што прайшоў пакуты і агонь!

Чырванее, ападае лісце,
Каб вясной на зорах зазіяць.
Груганы крыві ўжо напіліся,
Час, пара у Сібір ім адлятаць!

●

Далі ёсць далі, і лёс наш круты,
І нам ўжо з табой не сустрэцца,
Усё ж чую праз гэтыя далі, браты,
Як вашыя тужаць сэрцы.

Сніцца Вам край найцяжэйшых пакут,
Адвечны наш лад гаспадарскі,
Хоць бедны прыбыткамі дзедаўскі кут,
Усё ж багаты несказанай ласкай.

Сягоння іначай, камбайны кругом,
Не пяюць надвячоркамі жнейкі,
І большая крыху, цяжэйша зярнём,
Хоць не свая ўжо жменька.

Сягоння іначай, не тое сяло,
І доля і мова не тая,
Адвечнае наша дабро і цяпло
Аднак у душы не згасае!

А згасне—здзічэем, загінем тады,
Ад роду не нам адыходзіць.
Любоў быццам сонца ратуе з бяды,
Зямля нат без сонца не родзіць.

Не клічам вас воляй, яе ў нас няма,
Зямлі ў нас няма, ні багацця,
Адно засталося нам: продкаў Імя,
Імем роду мы клічам вас, брацця!

●

То не гоман чужы і грымотны,
У шумных выкрыках спакваля
Голас сціплы чутно і гаротны,
То гамоніць мая зямля!

З непахіснай надзейнай сілаю
Прарастае з глыбінь зярнё.
Чутна голас дзядоў над магіламі.
Прабіваецца праз дзярнё...

Слова кожнае, слова важкае,
Ўмацаванне народных праўд.
Не паўзеце, сыны, мурашкамі
Па зямлі на чужы загад!

Не хавайце ў магілу мовы,
Сваіх звычаяў і Імя.
Крывічы мы, род ганаровы,
І не зроджаны да ярма!

Нам даўно ўжо свабоду забралі,
Нясём долі круты цяжар,
І ў бядзе мы, аднак, захавалі
Чалавечы, дастойны твар!

І таму прарасцём з магілаў,
Цераз краты і кайданы,
Каб свабодай зямля ўскаласіла.
Яе праўдай засеюць сыны!

Нат касцьмі, толькі болей не нашымі,
Іх замнога народ зляжыў,
Уміраць нам было не страшна,
Толькі б край наш квітнеў і жыў!

Толькі годзе ўжо пакутаў,
Толькі годзе ўжо ахвяр,
Вольнай волі зялёнай рутаю
Мы засеем наш родны Край!

З продкаў нашых вялікім Імем
Пойдзем ў новы, крывіцкі дзень,
Нат слабых мы з калень падымем
На узровень вартых людзей.

Халуёў мы адмыем з бруду,
З чорных плямаў братняй крыві,
Любоў творыць часамі цуды,
Уваскрашае і нежывых.

Нам народ караць не прыстала,
Ён ў няволі душой знямог.
Усё ж мы будзем людзьмі—не стадам,
Хай нам у гэтым паможа Бог!!!

●

Сонца узыйшло асенняе.
Свеціць, але не грэе.
Ветрам даўно развеяна
Жменька былых надзеяў.

Землі дзядоў не нашыя,
Мы слугі свіней, кароўнікаў,
Для нас толькі праца цяжкая
І доля тупых нявольнікаў.

Не праца тая свабодная,
Годнасць своя, гаспадарская,
На калгас паглядаем сёння мы,
Што нам ласка ўдзеліць панская.

Нам не зраўняцца з старшынямі,
Не спіцца нам з брыгадзірамі.
Духовай, ліхой нішчымніцы
Не здобрыць народнай шчырасцю.

Нам ужо не выткаць узорамі
Дываноў сваіх, як калісьці,
Усё тут нам забаронена,
Рабы мы ужо з калыскі.

Нам мовы сваёй ужо сорамна,
Яны нам сваю дыктуюць,
А тога, што ўсё ж гаворым мы,
Яны ўжо даўно не чуюць...

Ёсць грошы, няма з іх радасці,
Пустэча ў душы, трывога.
Хлуснёю, насіллем і нагласцю
Замяніць захацелі Бога.

Пакланіся чарцы і чарачцы,
Рэлігія—песня старая,
Усё ж злыдням задума не дарыцца.
Розум—перамагае!

●

Не жыццём напоўнены дзень да краёў,
Жыццё—люты бой і ўжо тысячу жалаў
У хворае сэрца ўпілося маё.
Дзед мой і прадзед такога не зведаў,
Хоць і жылі яны многа гадоў.
Вось стаю я адна пасярод людаедаў
І пяю, як дзіця, ў забыцці пра любоў.
І смерці самой не баюся пярэчыць,
Натхнёна сваім і жаночым пяром.
Ім, як шпагай, змагаюся за чалавечнасць,
Ды з нялюдскасцю б'юся і злом.
А гдзесць за плячыма крадуцца Іуды,
Насупраць нярэдка забойцы стаяць,
І кожны мой дзень толькі з веры і цуду,
Толькі выстаяць горда, ў баі не ўпасць.
Ізноў Ірады ўсюды шукаюць дзіцятка,

Забіць па загадзе з іх кожны гатоў,
Я ж смела выходжу з Хрыстом, як з ягняткам,
Насупраць ашчэранай зграі ваўкоў.
І хоць перакрылі мне ўсюды дарогі,
І кожны жаночы вартуюць мой крок,
Праз здзек і праз мукі іду без трывогі
У дні, дзе жыццё, як суцэльны астрог.
Іуды наўкол выпаўзаюць, як змеі,
У нявінную душу агідна шыпяць.
Я ж слухаць не ўмею й хістацца не смею,
У баі за народ свой я мушу стрываць.
Хто ведае, можа, ўжо бліжыцца Каін,
І вораг гатуе знячэўку мне гроб,
Я строга лічу кожны кінуты камень
У бясстрашны і моцны жаночы мой лоб.
Толькі сэрца маё ціхі жаль агартае
Ноч сумная, доўгая думкі прадзе,
Што ў гэтым так некалі любым мне краі
Няма ні сяброў, ні адданых людзей.
Можа, ўмываюць, падумаўшы, рукі,
А можа, паціху, што ў сто разоў горш,
З пакутаў маіх, з маіх жудасных мукаў
Лічаць Іудаў «зароблены» грош...
Божа, тут некалі ў кожнай быў хаце,
Вякі што у сэрцах старых Крывічоў,
Дазволь мне ў змаганні маім не спыняцца,
І людзям з-над Нёмна пяяць пра любоў.
Калі ўсё стане не чулай машынай
І толькі слугою яе чалавек,
Няхай мае вершы квітнеюць шыпшынай,
Калінай жывой ля задуменных рэк.
І сярод шумных чужацкіх парадаў,
Дзе душна ад пыхі, аружжа і зла,
Хай людзям гавораць праз людскасць і праўду,
Што колісь па сёлах забытых жыла.
Паэт—гэта птах, крык душы летуценнай,
І здзекам іх голасу нельга спыніць,
Ніколі арлы не стаяць на каленях,
Натхнёнае слова й па смерці гучыць!



# Гэта было, было...

«Кепска і тое, што за апошні час з крытычнымі артыкуламі зусім не выступаюць старэйшыя беларускія пісьменнікі. У 1946 г., калі выходзіў першы зборнік апавяданняў Я. Брыля, К. Крапіва напісаў да яго ўступнае слова. Чаму б цяпер Я. Брылю не напісаць рэцэнзію, скажам, на першую кнігу В. Адамчыка ці І. Пташнікава? А хіба не цікава было б чытачу і самому У. Караткевічу, калі б з разглядам яго першага зборніка вершаў выступіў М. Лужанін ці А. Вялюгін?»

3 верасня 1958 г.
**С. Александровіч.**

«Другі сакратар райкома (М. Паслядовіч, «З табою побач». — **Рэд.**) Раман Шынкевіч наогул згубіўся на старонках аповесці. Ён хоць і праявіў некаторую ўвагу, пратрымаўшыся ў камандзіроўцы ў калгасе «Партызан» даўжэй, чым іншыя раённыя работнікі, але па віне аўтара плённага занятку ў творы так і не знайшоў».

24 лютага 1961 г.
**Я. Шарахоўскі.**

«Днямі на маладзёжным вечары ў адной з канцэртных залаў беларускай сталіцы адбыўся прыкры выпадак. Музыканта, лаўрэата саюзных і міжнародных конкурсаў, моладзь не стала слухаць: «Цымбалы?— Далоў!» Яго асвісталі, закідалі цукеркамі.

Цукеркі — салодкая рэч. Але якую горкую прысмаку набылі яны ў гэты вечар».

8 студзеня 1963г.
**Л. БраняВіцкі.**

«З лёгкай рукі Р. Барозкіна занадта захвалены ў нас Рыгор Барадулін, хоць факты яго непасрэднай творчай практыкі не даюць падстаў для непамернага захаплення. Больш таго, Рыгор Барадулін часам выступае ў друку з вершамі невыразнымі па думцы, цьмянымі па зместу і вобразнай сістэме.

Вельмі шчыра ў нас раздаюцца лаўровыя вянкі, патэнты на вечную славу. Не паспее другі «салавейка» вылузацца з яйка, адкрыць рот, як некаторыя паслужлівыя «дзядзькі» крычаць ужо: «Ура, талент!»

29 сакавіка 1963 г.
**Якуб Усікаў.**

«Наш дом —твой дом, Фідэль!

...Сэрцам, поўным любві да свайго правадыра, са шчырым пачуццём удзячнасці за ўсё невымернае, што зрабіў ён для Кубы і для кожнага кубінца, вялізнымі літарамі на сценах дамоў там пісалі словы:

— Гэта твой дом, Фідэль!

Сёння чорнабароды гігант, імя і харошая ўсмешка якога вядомы кожнаму чалавеку на зямлі і ўжо ж безумоўна нашаму суайчынніку, госць краіны Саветаў, наш з табою госць, таварыш!»

30 красавіка 1963г.
**У. Мехаў.**

«Першага студзеня — сорак пяць год з дня ўтварэння нашай рэспублікі. Так, сорак пяць год у гісторыі народа — гэта і мала, і многа. Але бясспрэчна адно: яны адкрылі новую эру ў жыцці беларускага народа — эру ўласнай дзяржаўнасці, рабочых і працоўных подзвігаў цудоўнага росквіту нацыянальнай культуры, таленту і здольнасцяў».

31 снежня 1963 г.

**Уладзімір Карпаў.**

«Галоўны клопат і абавязак прэзідыума і сакратарыята — спрыяць таму, каб пісьменнікі Савецкай Беларусі сустрэлі 100 гадавіну з дня нараджэння У. І. Леніна новымі творчымі здабыткамі, перш за ўсё творамі пра Леніна і Партыю, творамі на тэмы камуністычнага будаўніцтва ў нашай краіне».

(Каментарый І. Шамякіна да плана работы СП).

28 студзеня 1969г.

«Рашучы пратэст, голас беларускіх пісьменнікаў.

Нахабная правакацыя, якую ўчыніла зграя маістаў на нашай усходняй граніцы 2-га сакавіка выклікалі гнеў і пратэст усіх савецкіх людзей. II сакавіка адбыўся сход камуністаў Саюза пісьменнікаў БССР. Старшы-


Дні славянскага пісьменства і культуры. Шэсце накіроўваецца на плошчу Перамогі

# СТУПЕНІ НАШАГА САМАТВАРЭННЯ

СТАНАЎЛЕННЕ нацый у Еўропе звязваюць з Вялікай французскай рэвалюцыяй 1789 года. Гэта быў якраз той час, калі беларусы апынуліся ў царскай няволі. Таму невыпадкова, што і нацыянальны рух сярод іх распачаўся на цэлае стагоддзе пазней, чым у французаў. Узяцце Бастыліі абудзіла спаланізаваных беларусаў, але яны змагаліся за польскую ідэю. Першымі свядомымі даследчыкамі гісторыі свайго народа былі К. Каліноўскі і яго паплечнікі. Ды царскія шыбеніцы і высылкі прыпынілі народжаны інтарэс да самапазнання. Вывучэнне беларускай мовы, этнаграфіі, гісторыі вялося пераважна ў межах або польскай, або рускай навукі. Яно мела палітычную афарбоўку. Пецярбург шукаў на Беларусі працяг Расіі, а Варшава — Польшчы.

Свядомая навукова-асветная дзейнасць беларусаў на сапраўды шырокай аснове пачалася ў 80—90-х гадах XIX ст. Першы этап яе працягваўся да 1906 года. Беларускі друк у тыя часы забараняўся, і беларуская асвета разам з навукай знаходзіліся амаль што на нелегальным становішчы, мелі выпадковы характар. Ля вытокаў самапазнання стаялі беларускія народнікі (пецярбургскія «гоманаўцы»), нашы песняры Ф. Багушэвіч, К. Кастравіцкі (К. Каганец), навуковец Г. Татур.

Ва ўмовах нацыянальнага прыгнёту з боку Расіі навукова-асветная дзейнасць беларусаў і надалей заставалася цалкам прыватнай справай свядомых асоб, беларускіх грамадскіх і палітычных аб'яднанняў. Яна мела цесную сувязь з нацыянальна-вызваленчым рухам, набыла характар самаабароны ад русіфікацыі і паланізацыі.

Другі этап датуецца 1906—1914 гадамі, калі навукова-асветная дзейнасць беларусаў прыняла легальныя формы, атрымала магчымасць абапірацца на нацыянальныя перыядычныя выданні. На чале культурнай працы ўстала «Наша Ніва» (1906—1915) і яе шчырыя працаўнікі браты Антон ды Іван Луцкевічы, А. Уласаў, В. Ластоўскі, які выдаў першую навуковую працу на беларускай мове «Кароткая гісторыя Беларусі» (Вільня, 1910). Пад уплывам друкаванага слова памкнуліся да культурна-асветнай дзейнасці вясковая інтэлігенцыя, беларускае студэнцтва. Беларускі навукова-літаратурны гурток студэнтаў у Пецярбурзе (1912—1917) распрацаваў пад кіраўніцтвам Я. Карскага, Е. Раманава, Б. Эпімах-Шыпілы комплексную праграму даследавання беларускай мовы, фальклору, этнаграфіі, народнага мастацтва, а таксама асноўныя напрамкі асветніцкай працы. Тут упершыню загаварылі аб беларусазнаўстве, як сістэме ведаў пра Беларусь. У беларусазнаўстве бачылася і будучая асобная навука. Я. Купала прысвяціў пецярбургскім гуртоўцам такія радкі:

Сярод мелвы, сярод
насмешкаў,
Знак нейкі ціснучы к
грудзям,
Ідзе прарок далёкай сцежкай
З навукай новаю к людзям.
(«Прарок»)

Беларусазнаўцы нашаніўскай пары ўнеслі вялізны ўклад у самасцвярджэнне беларускай нацыі. Яны абапіраліся як на здабыткі сваёй працы, так і на вынікі даследаванняў рускіх і польскіх вучоных.

Трэці этап ахоплівае 1914—1920 гады. Гэта быў час, калі краіна перажывала вялікія выпрабаванні, калі вырашаўся лёс яе народаў. Жыццё на Беларусі тады надзвычай палітызавалася. Там, дзе збіраліся беларускія бежанцы, салдаты, эмігранты, узнікалі беларускія выданні, асветніцкія гурткі. У 1918 годзе ў Петраградзе, напрыклад, працавалі вышэйшыя курсы па беларусазнаўстве, у Маскве — Беларускі народны універсітэт, дзе выкладалася беларусазнаўства. Дарэчы, прафесар У. Пічэта разглядаў гэты предмет як будучую навуку. Народжаную ў нашаніўскі перыяд цікавасць беларусаў да самапазнання не стрымлівалі ні войны, ні рэвалюцыі. Нацыянальны дух перажываў небывалы ўздым. Тым не менш, у той час не былі прыняты захады, накіраваныя на абарону нацыі ад ідэйнай інтэрвенцыі. Папярэдні вопыт беларускіх асветнікаў, як і палітычны вопыт беларускага народа ў цэлым, быў недастатковым. Нацыянальная тэорыя «незалежнікаў» на чале з А. Луцкевічам, можа, і адпавядала інтарэсам беларускага народа, але не змагла абаперціся на рэальную сілу — беларускае войска, дзяржаву.

1920—1939 гады трэба вылучыць у асобны чацвёрты этап, таму што на працягу гэтага часу Беларусь была падзелена паміж савецкай Расіяй і Польшчай. Разам з беларускімі землямі быў падзелены і беларускі народ. Праўда, гэты этап распадаўся на зусім акрэсленыя перыяды 20-х і 30-х гадоў. Вастрыня беларускага пытання, незавершанасць адраджэння стымулявалі гэту дзейнасць па абодва бакі дзяржаўнай мяжы. Масква і Варшава дэманстравалі адна перад адной свае лаяльныя адносіны да беларусаў. Незвычайны ўздым навукова-асветнай дзейнасці назіраўся ў Савецкай Беларусі. Яе нацыянальна свядомыя кіраўнікі (А. Чарвякоў, У. Ігнатоўскі, А. Баліцкі і інш.) распачалі беларусізацыю. Беларуская асвета і навука ўпершыню атрымалі афіцыйнае прызнанне, сталі справай дзяржаўнай важнасці.



Фота А. КЛЕШЧУКА.

З 1922 года навуковая дзейнасць канцэнтравалася ў Інстытуце беларускай культуры (Інбелкульце). Даследаванні ў гэтай вышэйшай навуковай установе набылі комплексны характар. Была спроба надаць беларусазнаўству статут асобнай навукі. Але пасля смерці У. Леніна ВКП(б) і КП(б)Б пачалі адкрыта цягнуць навуку пад свой ідэалагічны кантроль, руйнавалі яе нацыянальныя формы. Інбелкульт цярпеў эканамічны ўціск, паступова траціў сваё першапачатковае прызначэнне. У 1929 годзе ён быў пераўтвораны ў Беларускую Акадэмію навук, дзе беларусазнаўства было адсунута на другі план.

Нядоўгім быў росквіт і асветніцкага беларусазнаўства. Беларускую мову вывучалі ў школах, інстытутах, войску, дзяржаўных і партыйных установах толькі да канца 20-х гадоў. Дарэчы, лекцыі па беларусазнаўстве для насельніцтва актыўна чыталі супрацоўнікі Інбелкульта, у тым ліку Я. Колас, М. Гарэцкі. У 1924—1927 гадах у Менску дзейнічалі Вышэйшыя курсы беларусазнаўства, на якіх рыхтавалі настаўнікаў і лектараў. Трэба, між тым, падкрэсліць, што хоць нацыянальная прапаганда ў значнай ступені мела фармальны характар і сустракала варожыя адносіны з боку рускіх і зрусіфікаваных чыноўнікаў, ды і настаўнікаў, яна ўсё ж абуджала нацыю, асабліва моладзь.

У Заходняй Беларусі польскія ўлады не спрыялі развіццю навукова-асветнай дзейнасці беларусаў. Яна трымалася выключна на самаахвярнай працы нацыянальна свядомай інтэлігенцыі (А. Луцкевіч, Б. Тарашкевіч, Р. Шырма і інш.). У 1921 годзе ў Вільні адкрыліся Беларускае навуковае таварыства і Беларускі нацыянальны музей — своеасаблівыя цэнтры беларускай навукі і культуры. Вялікую ролю ў прапагандзе адыгрывалі і беларускія перыядычныя выданні, Таварыства беларускай мовы (1921—1937). У замежжы мелі вядомасць беларусазнаўчыя цэнтры Прагі, Рыгі, Коўны, Чыкага.

У 30-я гады дзейнасць, звязаная з развіццём нацыянальнай культуры, канчаткова падпадала пад кантроль Масквы. Прыкладна ў такім жа стане яна апынулася і ў заходняй Беларусі, якая знаходзілася пад уладай Варшавы. Але калі ў складзе Польшчы беларускія



# Гэта было, было...

«Выдавецтва «Беларусь» выпусціла ў перакладзе на беларускую мову зборнік прамоў і артыкулаў Генеральнага сакратара ЦК КПСС тав. Л. І. Брэжнева «Аб знешняй палітыцы КПСС і Савецкай дзяржавы», якія ахопліваюць перыяд 1966—1973 гадоў».

25 кастрычніка 1974 г.
БЕЛТА.

«Усё павінна быць падпарадкавана галоўнаму — мастацтву, якое б максімальна служыла інтарэсам народа. А пра якую прынцыповасць можна гаварыць, калі рэжысёр (...) нярэдка шукае тых крытыкаў, якія яму найбольш падыходзяць?.. За апошнія некалькі гадоў у тэатры імя Я. Купалы было шмат абмеркаванняў і ўсё сіламі або «прывазных» крытыкаў, або «падабраных» мясцовых...»

22 лістапада 1974 г.
**У. Няфёд.**

«Якія яшчэ пытанні стаяць перад намі ў галіне культуры? Як указвалася ў дакладзе кандыдата ў члены Палітбюро ЦК КПСС, першага сакратара ЦК КПБ П. М. Машэрава на XIII Пленуме ЦК Кампартыі Беларусі,— гэта праблема кадраў і матэрыяльнай базы... Стаіць задача ў бліжэйшыя гады забяспечыць культурна-асветныя ўстановы ва ўсіх звеннях толькі спецыялістамі адпаведных кваліфікацый...»

17 студзеня 1975 г.
**Р. Платонаў,**
сакратар Мінскага абкома КПБ.

«Маякоўскі заканчвае верш выключнымі па сваёй сіле словамі:

Я знаю —
город
будет,
я знаю —
саду
цвесть,
когда
такие люди
в стране советской есть!

І мы ведаем, што такі горад пабудаваны! І не адзін, а мноства. Яны ўзведзены на здзіўленне ўсяму свету нашымі выдатнымі савецкімі людзьмі».

(З прамовы П. М. Машэрава на ўсесаюзнай нарадзе пісьменнікаў і крытыкаў).

2 сакавіка 1975 г.

«На старонках гісторыі адлюстравана шмат выдатных падзей і фактаў сумеснай барацьбы, дружбы і супрацоўніцтва двух народаў-братоў —літоўскага і беларускага. Але асабліва яркімі вяхамі яна памечана за апошнія дзесяцігоддзі — у сям'і савецкіх сацыялістычных рэспублік. Гэта вяхі ўсебаковых эканамічных сувязей, абмену вопытам камуністычнага будаўніцтва».

4 красавіка 1975 г.

«Пад магутным уздзеяннем кахання героя аповесці Івана Шамякіна «Гандлярка і паэт» Вольга Аўсюк з ваяўнічай абывацелькі, вядомай усёй мінскай Камароўцы як сквапніца Лявончыха, пераўтвараецца ў свядомую мсціўцу — сувязную партызан і падпольшчыкаў, і, ахвяруючы жыццём, гранатай знішчае трох ворагаў».

21 студзеня 1977 г.
**С. Лапцёнак.**

«У чым жа аўтарытэт нашай прэсы? (...) Аўтарытэт гэты ў праўдзівасці інфармацыі, яе шырыні, аб'ёмнасці, паўнаты (так на паласе. — **Рэд.**) шматграннасці і чалавечнасці. (...)

Сіла і аўтарытэт друку — у партыйным кіраўніцтве».

28 кастрычніка 1977 г.

(З прамовы А. Тоўсціка на аб'яднаным пленуме творчых саюзаў БССР).



Народны хор Беларусі ў хлебаробаў калгаса імя Заслонава Дзятлаўскага раёна.

«У Саюзе мастакоў БССР адбыўся адкрыты партыйны сход, прысвечаны 110-ай гадавіне з дня нараджэння У. І. Леніна. З дакладам «Ідэі Леніна жывуць і перамагаюць» выступіў народны мастак СССР, Герой Сацыялістычнай Працы, правадзейны член Акадэміі мастацтваў СССР З. Азгур. Ён гаварыў пра

сілы змагаліся за права на захаванне нацыянальнай свядомасці, то ў БССР адракаліся ад гэтага ў імя сацыялізму, сусветнай рэвалюцыі, асабістага дабрабыту, які залежаў ад паслужмянасці партыйна-дзяржаўнай эліце.

Пяты этап цягнуўся паўвека — з канца 30-х і амаль да канца 80-х гадоў. Другая сусветная вайна выратавала беларусаў ад гітлераўскага ярма, але заставалася сталінскае. Нацыянальная прапаганда вялася нелегальна, эзопаўскай мовай. У розных галінах навукі накопліваліся матэрыялы аб Беларусі, гісторыі яе народа, але яны ляжалі без руху і для адраджэння нацыі не выкарыстоўваліся. Партыйна-бюракратычная сістэма пазбаўляла беларусаў натуральнага права на веданне сваёй культуры, мовы, гісторыі з мэтай дэнацыяналізацыі. Аднак вынішчыць аддадзеных беларускай справе навукоўцаў ёй было ўжо не пад сілу. М. Ермаловіч, А. Мальдзіс, Г. Кісялёў і іншыя ратавалі гонар нацыі.

Шосты, сучасны, этап навукова-асветнай дзейнасці беларусаў пачаўся з канца 80-х гадоў, калі стала відавочна, што камуністычная ідэя поўнасцю дыскрэдытавала сябе, што наладзіць нармальнае, цывілізаванае жыццё магчыма толькі ў межах такой цеснай супольнасці, як нацыя. Вялікі ўклад у захаванне традыцый нацыянальнай навукі і асветы ўнеслі цэнтры беларускай эміграцыі ў ЗША, Канадзе, Англіі, Нямеччыне, Аўстраліі, Чэхаславакіі. На айчыне за духоўнае адраджэнне нацыі ўзяліся Беларускі народны фронт, Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, іншыя грамадска-палітычныя аб'яднанні. Суполкі беларусаў узніклі ва ўсіх кутках былога Саюза. Заснаваны згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», Міжнародная асацыяцыя беларусістаў (навукоўцаў). Дзейнічае Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны АН Беларусі. Але зрухі ў нацыянальнай свядомасці народа застаюцца вельмі сціплымі.

Яшчэ не пераадолены вульгарна-сацыялагічныя ўяўленні, што нацыянальная свядомасць фарміруецца пад уздзеяннем пераважна аб'ектыўных умоў ледзь не сама па сабе. На самай жа справе пачуццё нацыянальнай прыналежнасці, хоць аб'ектыўна і закладзена ў кожным чалавеку, патрабуе (у адрозненне ад адчування полу, сям'і) пастаяннай духоўнай і разумовай працы, на якую не кожны здатны. Паспяховае развіццё нацыянальнай самасвядомасці немагчыма без пастаянных мэтанакіраваных намаганняў з боку органаў улады.

Навучальныя ўстановы паранейшаму штампуюць манкуртаў. Мы нават не ведаем як след, што такое беларуская нацыянальная самасвядомасць і якая яе грамадская роля. Ні спецыяльных даследаванняў, ні нават сур'ёзных навуковых артыкулаў аб гэтым няма.

Даўно наспела патрэба ў напісанні падручніка і выкладанні *беларусазнаўства ў школах*, ВНУ, войску, дзяржаўных установах і прадпрыемствах, каб кожны жыхар Беларусі меў аб айчыне той мінімум ведаў, які вядзе да нацыянальнага самавызначэння і разумення свайго месца ў сусветнай супольнасці народаў, каб пераход адукацыі на нацыянальную глебу пайшоў хутчэй.

Абставіны вымагаюць тэрмінова прыступіць да навуковай распрацоўкі тэорыі нацыянальнага развіцця, а для гэтага трэба стварыць зусім новую грамадазнаўчую навуку, вольную ад ідэалагічных догмаў, якая б спалучала метадалагічны інструментарый шэрагу гуманітарных дысцыплін. Такая навука магла б атрымаць назву — беларусазнаўства.

Грамадазнаўцы павінны атрымаць права на стварэнне асобнай Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (НАНБ) з выкарыстаннем арганізацыйных форм былога Інбелкульта, бо як вырашаць у сценах сучаснай акадэміі тэарэтычныя праблемы нацыянальнага адраджэння, калі кіраўніцтва гуманітарнымі навукамі тем па-ранейшаму ажыццяўляецца матэматыкамі, фізікамі, у лепшым выпадку — пісьменнікамі.

Народ, які дайшоў да калапснага стану, не мае свайго міністэрства нацыянальных спраў. А самадзейнасць, саматужніцтва да нацыянальнага адраджэння не прывядуць. Тут патрэбен навуковы падыход, *прафесійная праца на дзяржаўным узроўні*.

**Захар ШЫБЕКА,**
**кандыдат гістарычных навук.**

# ЖЫВІ, ПАЭЗІЯ!




*Не магу ўтрымацца, каб не паведаміць чытачам «ЛіМа» зусім гарачую, толькі з патэльні, прыемную навіну. У Паставах, пры літаратурным аб'яднанні «Світанак», адбылася прэзентацыя (будзем ісці «ў нагу», будзем казаць не-папрасту!) альманаха «Рунь». У лютым гэтага года да чытачоў прыйшла другая Кніга паэзіі мясцовых паэтаў.*

(Падобна на тое, што я пачынаю выступаць у ролі «присяжного поверенного по делам». У канцы мінулага года ў «ЛіМе» быў змешчаны мой агляд першай кнігі альманаха «Рунь»).

Другая кніга—гэта ўжо сур'ёзнае пытанне: быць ці не быць?..

Бо кніга першая, як вядома, —гэта заўсёды—ад перапоўненага пачуцця, ад зразумелага нястрымнага чакання свята, нарэшце, ад саманадзейнай упэўненасці (прыйшоў, убачыў, перамог!..).

Кніга другая—гэта ўжо экзамен: паэт (празаік) сцвярджаецца ці не, аванс даверу і надзеі, яму адпушчаны, будзе вернуты чытачу ці...

Другую кнігу павінен аналізаваць—я ўпэўнена ў гэтым — абавязкова сур'ёзны аб'ектыўны і добразычлівы (незалежна ад ацэнак) крытык-літаратуразнаўца. (А не—прабачце—валанцёр-добраахвотнік з суседняга агароду-жанру...). Новая кніга «Рунь» выйшла на цудоўнай белай паперы... І гэта прыемна. Не пашкодзіла ёй, што паэты перад сваімі чытачамі з'явіліся на фотаздымках, можна сказаць, твар у твар. Кожны ў сваім непаўторным абліччы. А мне, добра пажыўшы ў іх першай кнізе, дык яшчэ было і надзвычай цікава іх пазнаваць...

...Алесь Касцень і гэты раз выступіў з нізкай вершаў самых розных, непадобных як па змесце, гэтак і па настрої. Асабліва выразны ў гэтым сэнсе, як мне здаецца, яго верш «У хвіліну роспачы». Чытаю яго і нібыта ўласныя адчуванні бачу выказанымі балючымі словамі паэта.

Адмаўляю табе ў існаванні,
Назаўжды абамлелы народ.
Ты забыўся на славу
дазвання!
І на годнасць заўсёды
няўрод.
. . . . . . . . .
Так, я страціў ранейшую
веру.
Адраджэнне—не наша
сцязя...
Не хапаюся сёння аберуч
За той меч, што не мае
ляза...
. . . . . . . . .
Падуладны няўмольнае
сілы,
Покуль голас мой слабы
не сціх,
Я прашу, як дагэтуль
прасілі:
«Божа, будзь літасцівы
да іх!»

...Да людзей, што, жывучы на роднай зямлі, адмаўляючыся ад яе, падаюць на родную мову ў суд... Дзе яшчэ ёсць краіна і зямля, здольная насіць такіх грэшных сваіх сыноў і дачок? Будзь літасцівы да іх, Божа, яны не ведаюць, што твораць. Спрадвеку здольныя былі яны цярпець, несці свой крыж і спагадаць таму, каму было горай, чым ім... Умелі, аднак — і ў гэтым ім не адмовіш, —і па-суседску, па-людску сядзець за добрым сталом, слухаць разумнае і свайму разумнаму вучыць. Умелі!

Татарын Куба просіць
на байрам.
Пачостка самавітая чакае.
Ды і прычына святу
неблагая—
Асенні дзень у сем вятроў
зайграў.
. . . . . . . . .
Татарын Куба дастае Каран.
Нам ісціну Каран
прыадкрывае,
Якая не ў адным віне іграе,
Якой дзяліцца трэба ўсім
сябрам.
Татарын Куба просіць
на байрам.
Бяседа.
Ноч. Скаваных лужын
лускат.
І мудрасці паўнюсенькі
Каран,
Напісаны па-старабеларуску.

У соты раз паўтару: якое шчасце, што жывуць паэты на зямлі! In vina veritas... Здавалася б, спрадвечная—тым больш сярод паэтаў!—ісціна. А гэты ўзяў ды павярнуў яе вунь як! І прачытаў уласнымі вершамі. Па-старабеларуску прачытаў...

Кароткая хуткагаворка мая, разумею, вельмі далёкая ад прафесійнага аналізу, які б ішоў ад мэтра з крытычнага цэха.

Газетная рубрыка і плошча, ёй адведзеная, ды і мэта, якая ставілася самім аўтарам, не дазваляюць больш падрабязнага, больш грунтоўнага разгляду ні зместу новага альманаха «Рунь», ні творчых набыткаў іншых паэтаў, з якімі выйшлі яны на гэтыя новыя, безумоўна, радасна чаканыя імі, старонкі.

А набыткі ёсць (гадавыя). Яны відавочныя. Няхай яны не аднолькавыя колькасна і паэтычна-якасна, але яны цешаць і надаюць надзеі. Не толькі ж стаяць людзі ў чэргах за харчам і гарэлкай! А яшчэ ж — ёсць такія! — і вершы пішуць, *шчасна згараючы на святым агні* паэтычнага натхнення.

Назаву, як у кнізе, па чарзе імёны паэтаў новай «Руні»:

Алесь Касцень. Фёдар Панцялееў. Ігар Пракаповіч. Яўстафій Абрамовіч. Ганна Жук. Алесь Гарбуль. Ніна Захарэвіч. Аркадзь Нафрановіч. Марыя Глібіна. Зінаіда Шыман. Іосіф Атрахімовіч. Таццяна Гінько. Леанід Трубач. Гэта, можна назваць іх, ветэраны... У Людмілы Сіманёнак—толькі прэм'ера. Ёй 17 гадоў. Яна ў гэтым годзе канчае сярэднюю школу. І піша вершы!

Ёсць Паэты ў краі, значыць, ёсць Надзея. Што абудзімся, азірнёмся вакол сябе і ўспомнім, што ніхто іншы, а Паэт заклікаў беларусаў людзьмі звацца!

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**






500-годдзе Францішка Скарыны ў Полацку.

ролю правадыра ў жыцці і барацьбе за шчасце і незалежнасць людзей усёй планеты, спыніўся на тэме «Ленін і сацыялістычнае мастацтва».

*22 лютага 1980 г.*

«Створана рэспубліканскае гісторыка-асветніцкае таварыства памяці ахвяр сталінізму «Мартыралог Беларусі». Ва ўступным слове на ўстаноўчай канферэнцыі Васіль Быкаў сказаў, у прыватнасці: «...Найперш праўду трэба сказаць пра мільёны безыменных людзей Беларусі — рабочых, калгаснікаў, інтэлігентаў з народа — беларусах, рускіх, палякаў, яўрэях, людзях іншай нацыянальнасці, панішчаных у гады сталіншчыны — без віны, без *права*, без следу ў народнай памяці. Сімвалам тых панішчаных сёння сталі славутыя «Курапаты», але «Курапаты» — толькі адна кропля ў моры людской крыві...».

28 кастрычніка 1988 г.

*Лімаўскія падшыўкі гарталі*
**Г. Каржанеўская,**
**С. Берасцень**
**і М. Замскі.**
Фота Ул. КРУКА.

ЯНЫ РЭДАГАВАЛІ «ЛіМ»

## Анатоль ВЯРЦІНСКІ:
# «Успрымаю «ЛіМ», як чытач...»

*Мая задача і прасцей, і складаней, чым у калег. З аднаго боку, няма патрэбы напружваць памяць, усё жывое, нядаўняе, з другога — не ўсё: можа, устаялася, выкрышталізавалася ў пэўныя высновы. Таму я раскажу гісторыю, якая здарылася не са мною, а з другім лімаўскім рэдактарам. Гісторыю, пасля якой я зразумеў, што такое мець галоснасць і не мець яе.*

Працаваў я тады кансультантам у Саюзе пісьменнікаў. Летам 1972 г. мы з Петрусём Макалем прадстаўлялі Беларусь на Пушкінскіх урачыстасцях у Болдзіне (у той час яны толькі распачыналіся). Па дарозе на свята, літаральна ў самалёце пераклалі па вершу Аляксандра Сяргеевіча, я — «Вакхічную песню», а Пятрусь санет «Паэту» («Поэт! не дорожи любовию народной»). Нас у значнай меры выратавалі гэтыя пераклады, бо, выступаючы, можна было не толькі гаварыць пра рускага генія, але і прадэманстраваць, як гучаць яго вершы па-беларуску.

Зярнуўшыся дадому, я напісаў нататкі для «ЛіМа» — «У Пушкіна», да якіх мы прыклалі, зразумела, свае пераклады. Тагачасны рэдактар, Л. Прокша, ухваліў і тое, і другое, матэрыял стаяў на паласе. І раптам — званок. Леанід Януаравіч паведамляе сумным голасам, што нататкі, маўляў, пойдуць, а вось вершы... Аказваецца, к таму часу якраз прыспела першая антыалкагольная кампанія. А мы разам з Пушкіным неабачліва спяваем гімн вясёламу і п'янаму богу Вакху.

У Макаля таксама пераклад не пайшоў па аналагічнай прычыне: з'явілася пастанова аб узмацненні ролі літаратурна-мастацкай крытыкі, дзе падкрэслівалася, што інтэлігенцыя павінна служыць народу. А тут: «Ты цар: жыві адзін»... Такая выйшла неспадзяванка...

Але ў гісторыі быў працяг, дзякуючы якому Леанід Прокша як рэдактар асабліва ўспамінаецца мне. Пасля таго — і праз тыдзень, і праз паўгода, і пазней — варта было нам сустрэцца дзе-небудзь на вуліцы, як ён пачынаў вінавацціца і прасіць прабачэння за «Вакхічную песню». Асадак на душы застаўся ў чалавека... Хаця і не ад яго залежала, і аб'ектыўная прычына была нібыта...

Гэты эпізод стаў своеасаблівым урокам для мяне. Сам стаўшы рэдактарам, я казаў сабе ў падобных выпадках: а як ты будзеш разважаць з аўтарам праз год, калі час зменіцца? (А ён абавязкова зменіцца!)

Не трэба думаць, што ў тыя першыя перабудовачныя гады прэса зведала смак волі. Шосты артыкул не хутка адмяніўся, Закона аб друку яшчэ не было. Пра галоснасць, праўду, крытыку толькі загаварылі. У юрыдычна-прававым плане дзейнічалі тыя ж структуры, панавала тое ж тэлефоннае права. Як без пятнаццаці шэсць, так і раздаецца званок. І адкуль інфармацыю бралі? Яшчэ нумар не выйшаў, а яны ўжо ў курсе: пераконваюць, настойваюць, націскаюць... Нарыс В. Хомчанкі пра яшчэ адны мінскія Курапаты двойчы здымалі з паласы.

Цяпер я разумею, што можна было б праяўляць болей рашучасці. Не, справа не ў канфармізме, не ў *боязі за* кар'еру. Тут другое. Той, хто званіў, не сваю думку выказваў, на яго таксама націскалі. Як прадукт свайго часу і сістэмы, ён толькі выконваў загад. Прызнаюся: мне шкада было па-чалавечы гэтых людзей...

Сёння я ўжо староннімі вачамі гляджу на «ЛіМ», успрымаю яго як чытач. Нярэдка свае думкі і разважанні знаходжу ў лімаўскіх матэрыялах, гэта заўсёды прыемна. Сродкі інфармацыі зараз залішне раскаваныя, многа лішняга шуму, усе бяруцца пісаць пра ўсё. На гэтым фоне «ЛіМ» выдзяляецца ўзроўнем асэнсавання *з'яў і падзей*, абсягам фактаў.

На гэтым здымку вы бачыце тых, хто з тыдня ў тыдзень, з году ў год робіць для вас «ЛіМ». Мы ўпершыню сфатаграфаваліся ўсе разам і, скарыстаўшы юбілейную нагоду, змяшчаем тут наш калектыўны партрэт (для завочнага, так сказаць, знаёмства з чытачамі). Усіх, хто пажадае сустрэцца з намі непасрэдна, а таксама з нашымі аўтарамі і гасцямі, будзем рады бачыць на лімаўскай вечарыне ў Доме літаратара. Сёння, у пятніцу, а 18-й гадзіне.

Дзверы для вас адчынены.

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

# Мне сніўся «ЛіМ»...

Толькі немалая юбілейная нагода надала мне смеласці абнародаваць гэты лірычна-гумарыстычны твор. Пісаўся ён, вядома, для «ўнутранага карыстання» — у пісьменніцкім Доме творчасці ў Юрмале і ў тыя дні, калі насельнікам яго асабліва хацелася дадому (звярніце ўвагу на дату напісання). Мяркуючы па рэакцыі калег, ніхто з іх на маё пасланне тады не пакрыўдзіўся. Няхай жа і чытачы ўспрымуць напісанае як нязлосны сяброўскі жарт...

АЎТАР.

Мне сніўся «ЛіМ».
У змрочным калідоры
Свістаў намеснік, стукалі абцасы,
Звінелі галасы і тэлефоны
І, як заўсёды, абураўся Крук.

Раз-пораз палымянскія мужчыны
Снавалі дзелавіта — вочы долу, —
Адзін да прэсы свежай спрычыніцца,
Другі, паспешней,
рукі мо памыць.

І пэўны пах,
змяшаўшыся з духамі
(У аддзеле пісьмаў водар адмысловы),
Атульваў спецыфічнай аблачынай
Рабочы наш і творчы арэал.

Часамі ўсё —
і ляпанне дзвярыма,
І стракатанне дробнае машынкі,
І спрэчку фотакара з чалавецтвам
Магутны голас нечы заглушаў.

Тады трымцелі аўтарскія сэрцы,
Якія выпадкова забрыдалі,
Шукаючы якісьці іншы орган,
І шыбавалі хуценька адсюль.

І быў прасвет:
то дзверы кабінета
Адказнага.
Там, праўда, гамяльчане
Атабарыцца хочуць,
ды пакуль што
Яшчэ, бывае, месца ёсць і нам.

Усё, як і наяве.
У прыёмнай
Чарга на спавяданні (да Тамары).
Галоўнага наведваюць таксама:
Ці скардзяцца,
ці просяць, каб хутчэй.

Як чалавек задужа далікатны
(Такім быў і рэдактар папярэдні),
Адмовіць ён ніяк, ніяк не можа.
Рашучасці бракуе нам, дальбог!

Мне снілася, што ў «ЛіМе»,
як звычайна:
То Пецю Васілеўскага шукаюць,
То пасылаюць некуды Залоску,
То крытыка ўвязалася ў канфлікт.

Адзіны, хто не схільны хвалявацца, —
То наш мастак.
(У творчае натуры
Заўжды другія клопаты і планы.)
Не меншы алімпіец — Тарас-сын.

Там, на галёрцы — С. Ветка і Жанета.
У музыкі з тэатрам разуменне,
Аднак жа чытачам не так і проста
Давесці, што ў маркізы ўсё о'кэй.

Гучаць па «кропцы» песні... Пугачова...
Наконт таго, каб таньчыць запрасілі.
І дзіўныя наведвальнікі ў Свіркі,
А ў Замскага ніякіх не відно.

Увогуле не так ужо і блага
У лімаўскіх — падчас —
апартаментах,
Падумала.
Якраз у гэтым месцы
Пад хваляў пошум
сон мой адляцеў.

Адно і засталося: пакавацца,
Развітвацца з балтыйскай халадэчай,
Білеты рыхтаваць
на «Рыга—Гомель»,
А там — мой Мінск,
Заслаўская
і «ЛіМ»!

22—24 жніўня 1991 г.
Дубулты.




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ—33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.





Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12